PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 16 (2031) ГОД XL БЕЛАСТОК 16 КРАСАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Ганна Кандрацюк*

## Стройныя, багатыя Чыжы

Купалы чыжоўскай царквы відаць з вялікай далечыні. Сваёй манументальнасцю намякаюць яны на нейкі цэнтр праваслаўя. Так, зразумела, падумаў бы выпадковы турыст, які едучы ў Белавежу разглядаўся б па баках. Чыжы якраз і сапхнутыя ад галоўнай трасы Бельск — Гайнаўка два кіламетры на поўнач.

Уражанне павялічваецца ў самой вёсцы.

Мясціна гэтая як адна з нямногіх дасягнула ўсе магчымыя на Беласточчыне стандарты цывілізацыі. Не дзіва тады, што і царква, пабудаваная на кошт прыхода, не адстае ад гарадскіх з увагі на багацце.

У Чыжах да сёння ўспамінаюць, што прыязджала сюды тэлебачанне. Пра апрэстыж гэтай мясціны, як заявіў адзін жыхар гэтай вёскі, сведчыць між іншым такая дэталь: чыжавяне маюць не толькі тратуары але і асфальтавыя або брукаваныя панадворкі. На ўсю вёску, якая налічвае 200 сядзіб, толькі два гаспадары абрабляюць зямлю коньмі.

— Про тое, то лепі нэ пісаті, — прапанаваў адзін дзядзька.

Пра поспех Чыжоў, як і некаторых навакольных вёсак, вырашыла сама натура.

Землі ў Чыжоўскай гміне III і IV класа, а месцамі і II-га. Сярод вяскоўцаў пануе голад на дадатковыя гектары. Неабсеянай, пакінутай зямлі тут няма. Зараз сяляне змагаюцца за царкоўныя землі, якія належаць сёння калгасу ў Макаўцы.

Крыўдна было б абысці і самых чыжавян. Ад вякоў славіліся яны ў наваколлі як таленавітыя майстры-дойліды. Іхнія дачы, якія спалучаюць традыцыйны і сучасны стылі, зачаруюць не аднаго наведвальніка. Чыжы маюць даволі багатую мінуўшчыну. Заснаваныя яны ў XVI стагоддзі як каралеўская вёска. І пэўна адсутнасць паншчыны паспрыяла адметнаму менталітэту чыжавян. Раней нават жаніцца найлепш было са сваімі дзяўчатамі. А зараз праблемы старакавалерства дакучаюць і тутэйшым халасцякам.

— Мніэ хоч розводяшчу якую, — раіўся адзін хлопец, таксама таленавіты майстар.

У яго я даведалася, як мясцовыя кавалеры праводзяць доўгія вечары. І тут, як амаль усюды, сустракаюцца пры піве ў мясцовым клубе.

— Прыцягвае нас, — як запэўніў мой інфарматар, — сатэлітарнае тэлебачанне. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца тут фільмы жаху, баевікі, пра любоў і вайну.

— Але я „хароры" тые нэ оглядаю, бо боюсе, — адзначыў ён.

Каб дакладней прыгледзецца жыццю жыхароў, вырашыла я наведаць пастаянных чытачоў „Нівы".

У Бількевічаў шматлюдная і цікавая сям'я. Галава роду працуе пісьманосцам. За тры гады стане ён пенсіянерам. Спецыяльна для „Нівы" дзядзька пераапрануўся ў мундзір пісьманосца.

— То-то мніэ газэта, — хваліў спадар Бількевіч, — тут і про православіе, і про люді нашых.

Але падпісчыкаў у багатых Чыжах на наш тыднёвік нямнога. На пошту прыходзіць толькі 6 экземпляраў. Пашчасцілася сыну, Яраславу. У конкурсе, аб'яўленым беларускай радыёперадачай, выйграў ён гадавую падпіску на „Ніву". Хлопец здаўна з'яўляецца нашым пастаянным чытачом. Яраслаў — таленавіты майстар. Сам задбаў пра вонкавую і ўнутраную аддзелку сямейнай хаты. Прыгожая, у амерыканскім стылі, віла Бількевічаў красуецца на ўсе Чыжы.

Хлопец, апрача працы на зямлі, дарабляе дзе яму ўдасца.

— Тэпэр ходжу з вэтэрынаром по гміні і коровы кольцуем, — расказваў пра новы занятак хлопец.



*Сям'я Бількевічаў.*

Тут таксама гаспадарка немалая. Хаця жывёлагадоўляй спецыяльна не займаюцца, у Бількевічаў пяць кароў і пяць цялят. У сям'і яшчэ адно маладое сужонства. Тамара і Яўген Бількевічы — выпускнікі беларускай філалогіі. Зараз жывуць яны ў бацькоў і разглядаюцца за працай. Тамара, энтузіястка беларускага руху, вельмі хацела б працаваць настаўніцай беларускай мовы. Аднак знайсці сёння такую працу — справа безнадзейная.

— Мы ўжо хацелі пісаць у „Ніву", параіцца, — згадаў Яраслаў.

Па хаце бегае таксама аднагадовая прыгажунька Кася. Дзяўчынка толькі што пачынае гаварыць. І, здаецца, вельмі любіць фатаграфавацца.

Пазней зайшла я таксама да верных чытачоў „Нівы" — спадарства Адамюкоў.

— У нас то по зіміэ нічого нового нэ чуті, — заявіў Валодзя, мой стары сябра. — От, напішы, што зашла до Володі на каву і ўсё, — сціпла намякнуў мой субяседнік. Якраз апекаваўся ён дзеткамі: Петрусём, Ганусяй і Мартай. Ягоная жонка, Ніна Адамюк, настаўнічае ў бельскай „тройцы". Тры разы ў тыдзень даязджае з Чыжоў у Бельск на сваёй машыне.

— Наша Мартуся ўсім „Зорку" паказуе со своім зд'енцём, — адзначыў Валодзя. У сям'і Адамюкоў, як і Бількевічаў, дзяцей вучаць роднай мове. Не было б у гэтым нічога незвычайнага, але ў Чыжах існуе мода гаварыць з малымі па-польску.

Гаспадарка ў Валодзі таксама немалая. Ён і таленавіты майстар.

Папулярная прыказка аб шаўцу, які сам ходзіць у дзіравых ботах, тут не прыстае. Чыжавяне перш за ўсё дбаюць пра свае сядзібы. У спадарства Адамюкоў таксама шыкоўны, лёгкі катэдж з усімі выгодамі.

Будучы ў Чыжах, выпадала наведаць і Гмінную ўправу.

— Наш вуойт як воўк сэрэд овэчок, — пачулася ў Чыжах. Мае субяседнікі сказалі, што маюць на думцы менавіта тое, што войт — адзіны мужчына сярод жаночага калектыву гміны.

Але спадар Рыгор Мацкевіч якраз быў у водпуску.

Пра ўсе гмінныя навіны расказала мне сакратар Марыя Ляшкевіч:

— У Чыжоўскай гміне аж 22 вёскі. У нас, як усюды, перш за ўсё фінансавыя праблемы. Нядаўна закончылі пабудову 11-кіламетравага водапровода ў вёсках Асоўка, Койлы, Курашава. Зараз трэба было б пачынаць пракладку ў вёсках Клейнікі і Гукавічы. Гэтая інвестыцыя каштавала б гміну звыш мільярда старых злотаў.

Нядаўна гмінная рада зацвердзіла бюджэт на бягучы год, які складае 9,5 мільярда старых злотаў.

— Да самых неабходных прац належыць аддзелка вясковай святліцы ў Шастакове, — дабавіла спадарыня сакратар.

Тут варта адзначыць, што на тэрыторыі гміны працуе сем вясковых клубаў. Культурнае жыццё тут асацыюецца з дзейнасцю народных спявачых груп. „Чыжавяне" і курашаўскія „Незабудкі" расслаўляюць ваколіцу на ўсіх фэстынах і беларускіх фестывалях. На жаль, шэф гміннага дома культуры Юрка Якімюк таксама быў у водпуску.

— У гэтым годзе на культуру далі чатырыста тысяч злотаў, а на вецярынарыю — паўтары сотні, — абураліся некаторыя вяскоўцы.

— Што мы з тоі культуры маем? Як корова захворые, то кажды до лечніцы пуйдэ, — аргументавалі сяляне.



*Валодзя Адамюк з дачушкамі Аняй і Мартай.*

*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polacy stali się w wielu krajach przykładem wzorcowego wręcz czarnego charakteru. Bijemy jako nacja rekordy niepopularności. Określenie Polak w Niemczech oznacza to samo co w Polsce Szwab. Na Węgrzech to pogardliwe określenie chłopka-roztropka. W rosyjskim słowniku słowo „pan" zarezerwowane jest wyłącznie dla Polaków i często oznacza osobę pełną pychy i cierpiącą na manię wielkości. 67,5% Rosjan uważa, że pycha jest naszą główną cechą narodową. Nasz rodak jest przedmiotem niewybrednych amerykańskich żartów, w których występuje jako niechlujny prostak. W Szwecji Polak najczęściej kojarzy się z handlarzem amfetaminą. Na terenie byłej NRD Polacy postrzegani są jako bałaganiarze, brudasy, ludzie nieuczciwi, pełni pychy i poczucia wyższości. Podczas karnawałowej imprezy w Kolonii, którą transmitowała telewizja, zadano pytanie: „Jaka jest różnica między autem niemieckim a polskim" — „Niemieckie pochodzi ze stalowni Kruppa, natomiast polskie ze złodziejstwa" — brzmiała odpowiedź. Przy okazji upadku rządu Pawlaka „Süddeutsche Zeitung" pytała: „Jak to jest możliwe, że 38-milionowy naród czyni z robotnika prezydenta, a z chłopa premiera?" — „Polska egzotyka" — komentowano.*

*Białorusini nigdy nie mieli do nas zaufania. Czesi podobnie jak Rosjanie zarzucają Polakom pychę i nieuczciwość oraz pogardę dla ich pragmatyzmu. Nie lubią nas Grecy, nie przepadają za przybyszami znad Wisły Cypryjczycy, traktowani przez nas jako służący. Przedstawiciele krajów czarnej Afryki wspominają Polaków jako rasistów, chamów i naciągaczy, podobnie Wietnamczycy i Mongołowie. Polak coraz częściej kojarzy się w świecie jako gbur i rasista.*

*(Wprost, nr 13)*

* * *

*Kiedy myślę o Łukaszence, nieodparcie nasuwa mi się porównanie z Wałęsą. I jeden i drugi jest populistą. Obaj mają szczególny talent do siania zamętu. Oczywiście są pomiędzy nimi różnice. Wałęsie nigdy nie przyszłoby do głowy zmienić flagę i godło czy zrównywać w prawach inny język z polskim. Jest niewątpliwie Polakiem. Łukaszenko zaś jest Sowietem, człowiekiem bez narodowości,* — сказаў Сакрат Яновіч.

*(Gazeta Wyborcza, nr 69)*

* * *

*W marcu mija 50 rocznica bitwy o Wał Pomorski, w której poległo dwukrotnie więcej żołnierzy i oficerów polskich niż pod Monte Casino. Jednak w przeciwieństwie do rocznicy Monte Casino, o żadnej celebracji nie słychać.*

*(Polityka, nr 12)*

На Монтэ-Касіна салдаты змагаліся за „слушную справу" а на Паморʼі за што? Каму патрэбны быў той Шчэцін ці Калобжэг? Што іншага кляштар у горах, у якім пасяліліся подлыя фашысты, прафаны святасці.

* * *

*Spolegliwość lewicowej koalicji wobec Kościoła katolickiego i przymilne merdanie ogonkiem jej eminentnych przedstawicieli owocuje coraz bardziej stanowczym tonem kardynała Glempa. Po kolejnym powrocie z Rzymu prymas zgłosił kardynalską wątpliwość, czy ludzie przez lata szkoleni w marksizmie mogą teraz tworzyć Nową Polskę. Jest jednak wątpliwość czy przedstawiciel niedemokratycznej struktury, przez całe życie szkolony w posłuszeństwie, ma jakiekolwiek prawo pouczać nas o zasadach demokracji.*

*(Polityka, nr 12)*

Праўда, што найбольш забаўныя дыскусіі ў Польшчы ўзнікаюць на тэму дэмакратыі. Быццам бы яна ёсць, але навошта і каму яна патрэбная, ніхто так напраўду тут не ведае.

* * *

*Kolejny już raz przychodzi bronić dobrego imienia żołnierzy Polski Podziemnej. Są dziś tacy, którzy gotowi całą winę za dramat lat powojennych zrzucić na Narodowe Siły Zbrojne i formacje poakowskie. Aparat PZPR oraz MO, UB, SB rekrutował się głównie spośród ludzi nie identyfikujących się z polskością, a raczej z tzw. mniejszościami narodowymi. Samozwańczy przedstawiciele owej mniejszości podróżowali do Moskwy z prośbami o przyłączenie Białostocczyzny do ZSRR. Były wykonywane wyroki na zdrajcach i kolaborantach. Fakt. Może by jednak uczcić pamięć jednego z najdzielniejszych partyzantów RP Zygmunta Szyndzielorza „Łupaszki" nazywając jedną z ulic Bielska, Białegostoku jego imieniem,* — піша Stanisław Górski.

*(Kurier Poranny, nr 70)*

Цяпер гэта называецца „przywracaniem prawdy historycznej".

* * *

*Zgodniem z polską tradycją już prawie został usankcjonowany dzień młodocianego pijaczka lub jeśli ktoś woli, święto ucznia-alkoholika, zwane powszechnie dniem wagarowicza. Polega ono na zbiorowym spożywaniu przez uczniów szkół różnego szczebla napojów alkoholowych w miejscach publicznych. Młodzież, kiedy już się napije taniej berbeluchy, to podobnie jak starsi, zabiera się za politykę. Politykowanie wygląda też podobnie, gdyż w głównej mierze opiera się na mordobiciu. Stają przeciw siebie skini i anarchiści i nawalają się czym popadnie, dopóki nie rozdzieli ich policja.*

*(Gazeta Współczesna, nr 60)*

Палітыка — гэта сурʼёзная справа, часам патрабуе нават ахвяраў.

* * *

*W dniu wagarowicza w Tychach skini zabili punka, drugiemu obcięli ucho. Nie wszyscy skini to faszyści. Są skini apolityczni, którym wszystko jedno kogo bią. Ale najwięcej jest nacjonalistów i faszystów. Wyznają kult siły i hasło „Polska dla Polaków".*

*(Gazeta Wyborcza, nr 71)*

Сярод скінаў, як відаць, таксама пануе плюралізм. Дапускаецца біць чорных, белых, нізкіх і высокіх, маладых і старых.

* * *

*Prymas Józef Glemp naurągał premierowi od komunistów. Równocześnie zgłosił chęć spotkania z nim. Metoda „kija i marchewki" wyda się zdawać egzamin. SLD klęka i wyraża chęć głosowania za podpisaniem Konkordatu.*

*(Wprost, nr 13)*

* * *

*Chcę zapewnić, że bez względu na to, kto i w jaki sposób chce „Solidarność" oszkalować i ją pomówić, to ona będzie istniała, bo ona wyrosła na bólu, krwi i krzywdzie ludzkiej. Zarząd Regionu „S" wystąpił o dzierżawę budynku przy ul. Suraskiej 1 nie po to, by czerpać korzyści finansowe, ale po to, aby budynek miał prawdziwego gospodarza i administratora,* — піша лідэр беластоцкіх салідарнікаў Юзэф Мазалеўскі.

*(Gazeta w Białymstoku, nr 64)*

„Bój to jest nasz ostatni, krwawy skończy się trud, gdy Związek Nasz Bratni ogarnie ludzki ród".

* * *

# З мінулага тыдня

У прысутнасці прадстаўнікоў Канцылярыі Прэзідэнта РП, урада, войска, духавенства розных канфесій, свету навукі і катынскіх семʼяў, а таксама расейскай дэлегацыі, на Каралеўскім замку ў Варшаве адбылася навуковая канферэнцыя **„У 55 гадавіну катынскага злачынства"**. Папярэджана яна была набажэнствам у гонар ахвяр савецкіх злачынстваў. У імшы, якую ўзначаліў прымас Польшчы кардынал **Юзэф Глемп**, удзельнічаў Праваслаўны ардынарый Войска Польскага, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** і галава Евангеліцка-Аўгсбургскага касцёла біскуп **Станіслаў Шарэк**.

**Яцэк Курань** зʼяўляецца трэцім афіцыйным кандыдатам на пост прэзідэнта ў надыходзячых выбарах. Яго кандыдатуру вылучыла Унія вольнасці. У Беластоку ўжо завязаўся Грамадскі рух падтрымкі прэзідэнтуры Яцка Кураня. Паводле меркаванняў членаў Руху, Курань прадстаўляе грамадскую плынь за дэмакратычную, справядлівую і талерантную Польшчу, стаіць па-над партыйнымі падзеламі, а яго кандыдатура дае спадзяванні, што як прэзідэнт будзе ён арбітрам ва ўсялякіх спрэчках. Яцэк Курань як пасол Сейма ўзначальвае парламенцкую камісію па справах нацыянальных меншасцей.

**Міністр унутраных спраў Анджэй Мільчаноўскі** прыняў рашэнне адкрыць архівы былой УБ (дзяржбяспекі) для пракуратур, судоў, гісторыкаў і іншых асоб і ўстаноў. Пакуль што можна будзе карыстацца дакументамі да 1956 года.

3 красавіка г.г. вечарам на экранах тэлевізараў у Менску не зʼявіўся **Восьмы канал** — адзінае ў сталіцы Беларусі незалежнае тэлебачанне. Прадстаўнікі Міністэрства сувязі, чыёй уласнасцю зʼяўляецца трансьлятар, якім карыстаўся „Восьмы канал", заявілі, што выключэнне трансьлятара мае тэхнічны характар і праз месяц узновіць ён працу. Але дырэктар „Восьмага канала" **Павел Жук** (ён таксама выдае газету „Свабода") мяркуе, што ўлады не дазволяць на далейшае распаўсюджванне незалежнай тэлевізійнай праграмы, бо імкнуцца закрыць незалежныя сродкі масавай інфармацыі перад наближаючыміся выбарамі ў Вярхоўны Савет.

**Дэлегацыя літоўцаў з Польшчы** сустрэлася з прэзідэнтам Літвы **Альгірдасам Бразаўскасам**. Дзеячы літоўскіх арганізацый прадставілі прэзідэнту пытанні, якія хвалююць іхняе асяроддзе, між іншым справу будовы Цэнтра літоўскай культуры ў Сейнах. Прэзідэнт абяцаў даць фінансавую падтрымку будове Цэнтра ў Сейнах і культурнай дзейнасці. На дапамогу можа разлічваць хор з Пуньска і выдавецтва „Аўшра". Літоўскі бок выдзеліць датацыю для фірм, якія будуць распаўсюджваць на тэрыторыі Літвы выданні „Аўшры" — месячнік і кніжкі.

У першым квартале г.г. супрацоўнікі **Падляшскага аддзела Гранічнай стражы** на гранічных пераходах з Літвою і Беларуссю затрымалі 140 крадзеных машын, якія мелі быць перапраўлены на Усход. Галоўным чынам былі гэтва „Аўдзі", „Фальксвагены", „БМВ" і „Форды" ўкрадзеныя ў Нямеччыне.

**У Новаберазове**, у прысутнасці прадстаўнікоў ваяводскіх школьных і прафсаюзных улад, адбылася ўрачыстасць уручэння сцяга Пачатковай школе імя Маршала Юзэфа Пілсудскага.

**Са стараверскай маленны ў Вадзілках** (Сувальскае ваяводства) невядомыя злачынцы ўкралі чатыры каштоўныя іконы XVI-XVII стагоддзяў.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Велікодныя роздумы айца Канстанціна Бандарука.
- Школа бізнесу або інакш падарожжа з Берасця ў Беласток.
- З Нараўкі ў Азію ў быдлячым вагоне — успаміны пра ссылку.

*Чытачам „Нівы", якія Вялікдзень адзначаюць 16 красавіка, жадаем вясёлых і спакойных Свят.*

*Рэдакцыя*

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Толькі два пытанні

З чатырох пытанняў, прапанаваных прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам на рэспубліканскі рэферэндум, дэпутаты Вярхоўнага Савета хочуць вынесці толькі два, — заявіў старшыня парламенцкай камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў. Паводле яго слоў, выбаршчыкам трэба прапанаваць пытанне аб зацвярджэнні новай дзяржаўнай сімволікі і аб адабрэнні дзеяння кіраўніка дзяржавы, накіраваных на інтэграцыю з Расеяй. Два іншыя пытанні: аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай і аб прадстаўленні прэзідэнту права роспуску Вярхоўнага Савета, на думку парламентарыяў, не могуць быць вынесены на рэферэндум, бо выклічуць неабходнасць унесці змяненні ў канстытуцыю рэспублікі.

## Антыканстытуцыйная структура

Паводле інфармацыі старшыні Канстытуцыйнага Суда Валерыя Ціхіні, адразу пасля таго, як увойдзе ў сілу закон аб прэзідэнце, КС адновіць справу аб правамоцнасці стварэння Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Ініцыятарам разгляду выступіў старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб. Спікер парламента лічыць, што гэтая прэзідэнцкая структура — антыканстытуцыйная. У пачатку красавіка КС вернецца і да разгляду справы аб белых плямах, калі не было дазволена друкаваць даклад дэпутата Сяргея Антончыка аб карупцыі ў прэзідэнцкай камандзе. Гэтую справу ўзбуджаюць дэпутаты ВС. Затрымка з яе разглядам звязана з тым, што не ўсе эксперты прадставілі суду свае высновы.

## Прэзідэнцкае замарожванне

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка заявіў пра намер выдаць указ, які будзе прадугледжваць замарожванне заработнай платы і цэн. На думку кіраўніка дзяржавы, сёння, у сувязі з тым, што курс долара ўжо два месяцы стаіць на месцы, няма абʼектыўных прычын, якія б прымушалі таваравытворцаў павышаць цэны на сваю прадукцыю.

## Мытныя дзівосы

У 40 мільёнаў рублёў абыходзіцца Віцебскаму абʼяднанню „Віцязь" растаможванне кожнай машыны з завезенымі ў рэспубліку кінескопамі для тэлевізійных прыёмнікаў. На прадпрыемстве гэта лічаць дзівосамі мытнай палітыкі дзяржавы, ствараючай ненатуральныя перашкоды на шляху прадукцыі, якая ўнутры краіны не вырабляецца. Адбіваецца гэта і на кошце прадукцыі, у выніку чаго церпяць спажыўцы. Затое дзяржаўная казна выйгрывае двойчы.

## Ушанаванне Міхала Агінскага

Імя аўтара вядомага паланеза „Развітанне з Радзімай" Міхала Агінскага віднелася на дэкарацыі святочна упрыгожанай сцэны ў Пінскай дзіцячай музычнай школе. Тут адбыўся абласны фестываль-конкурс для юных скрыпачоў-віяланчэлістаў і камерных ансамбляў. У такі спосаб было адзначана 230-годдзе з дня нараджэння польскага кампазітара, лёс якога цесна звязаны з культурай Палесся.

## Віктар Швед у Гародні

У абласной бібліятэцы імя Яўфіма Карскага ў Гародні адбылася аўтарская сустрэча з Віктарам Шведам з выпадку яго нага сямідзесяцігоддзя. Беластоцкі паэт пазнаёміў удзельнікаў сустрэчы са сваім жыццёвым шляхам і паэтычнай творчасцю, а прадстаўнікі абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры ўручылі Юбіляру віншавальны ліст ад старшыні БФК Івана Чыгрынава і падарылі каштоўныя сувеніры.

## Немцы фінансуюць мемарыял

Жыхары нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Вольфганг Мансель і Адам Опэ вырашылі ў нейкай ступені залагодзіць віну сваіх бацькоў і продкаў, якія падчас II сусветнай вайны спалілі вёску Масевічы Капыльскага раёна. Даведаўшыся, што фашысты знішчылі ў вёсцы 36 хатаў і расстралялі 32 чалавекі, прыезджыя немцы тут жа далі 2000 долараў — першы ўзнос на мемарыял у памяць аб загінуўшых. Апрача таго паабяцалі сабраць у сябе на радзіме патрэбную суму і такім чынам прафінансаваць узвядзенне мемарыяла.

## Нос у нос з гангстэрамі

Сярод белага дня трое сучасных гангстэраў, якія быццам сышлі з экрана кінабаевіка, уварваліся ў філіял „Прыорбанка" ў Магілёве. Пагражаючы рэвальверам, дарэчы, дарэвалюцыйнай вытворчасці, забралі наяўныя грошы — долары, маркі, расейскія і беларускія рублі. На шчасце адна з работніц паспела націснуць на кнопку сігналізацыі. Дзяжурны нарад абʼяднання „Ахова" выехаў, не ведаючы яшчэ, што адбылося, і здарылася так, што старшына міліцыі Аляксандр Кузняцоў і сяржант Юрый Івуцін прама ў дзвярах сутыкнуліся нос у нос з узброеным грабежнікам. Не разгубіўшыся, яны выбілі з рук рэвальвер і скруцілі злачынцу. Пакуль ішла бойка двое іншых са здабычай уцяклі на аўтамашыне. Але міліцыя таксама не драмала. Роўна праз дзве гадзіны работнікі пункта дарожнай міліцыі ў Шклове ўзялі яшчэ цёпленькімі грабежнікаў з грашыма. Вядома ўжо, што ўсе трое з Чэлябінска, а дапамагаў ім магілёўскі шафёр за вялікую суму.

## Адгалоскі

W numerze 13 tygodnika białorusko-języcznego "Niwa" z dnia 26.III.1995 roku zamieszczony został list korespondentki - Zofii Michalczuk z Bielska Podlaskiego, matki Magdy Michalczuk, która na eliminacjach centralnych II Ogólnopolskiego Festiwalu "Piosenka Białoruska'95" w duecie z Martą Dykałowicz zajęła I miejsce.

Czytelniczka, używając retoryki bardziej brukowej niż salonowej próbuje uzasadnić, że w BTSK rządzi mafia, która posługując się sobie tylko znanymi kryteriami dokonuje podziału nagród laureatom festiwalu tylko ze swego kręgu. Zanim spróbuję udzielić odpowiedzi na postawione przez czytelniczkę zarzuty, wyrażam przekonanie, że sprawa przez nią poruszona nosi znamiona przestępstwa i kwalifikuje się do sądu z oskarżenia czytelniczki bądź prokuratora, jeśli opisane przez nią fakty są prawdziwe, natomiast z oskarżenia BTSK, jeżeli fakty te są fałszywe, zmyślone. Ale spróbujmy odwołać się do tzw. faktów. "Fakty" przedstawione przez czytelniczkę w liście, w rzeczywistości wyglądają w przybliżeniu tak jak w znakomitej anegdocie z serii "Radio Erewań". Mianowicie, słuchacze pytają swoje radio, czy to prawda, że w Moskwie na Placu Czerwonym rozdają obywatelom samochody. Radio odpowiada, że jest to oczywiście prawda, tylko że to nie w Moskwie, ale w Leningradzie, nie na Placu Czerwonym, ale na Prospekcie Newskim, nie samochody, ale rowery, nie rozdają, ale kradną. Cała reszta informacji jest oczywiście prawdą.

Z podobną "prawdą" mamy doczynienia w liście Z. Michalczuk. Pisze ona, że duet "Ala Dubec - Mirek Kowalski" za I miejsce na eliminacjach Centralnych II Ogólnopolskiego Festiwalu "Piosenka Białoruska'95" otrzymał telewizor kolorowy "Sony" i 5 mln. złotych, a później... "Żeby było śmieszniej, podczas Wielkiej Gali, 26 lutego 1995 r., tenże duet "Dubec - Kowalski" otrzymuje puchary i inne nagrody" natomiast duet "Arpa" za to samo miejsce otrzymał po książce kucharskiej.

Należałoby zapytać, czy to prawda?

Tak to prawda, tylko że nie telewizor "Sony", ale telewizor "Horyzont", otrzymał nie duet "Dubec - Kowalski", ale chór BTSK z Białegostoku (w przeliczeniu na 1 członka chóru jest to nagroda znacznie niższa od nagrody, którą otrzymała córka korespondentki), a ufundował go i wręczył Wiceminister Kultury i Druku Republiki Białoruś, a nie mafia BTSK, natomiast duet "Dubec - Kowalski" otrzymał po jednym komplecie bielizny pościelowej, których wartość finansowa jest identyczna z wartością nagród duetu "Arpa" ("Arpa" otrzymała po książce kucharskiej i po zestawie podróżnym).

Reszta informacji zawartej w liście Z. Michalczuk do redakcji jest krystaliczną prawdą.

Przy okazji pragniemy Szanownych Czytelników poinformować , a właściwie tylko przypomnieć, że nagrody po Eliminacjach Centralnych w roku bieżącym otrzymali wykonawcy z Białegostoku, Bielska Podlaskiego, Hajnówki, Gródka, Orzeszkowa, Dasz, Lewkowa Starego, Tyniewicz, Czyż i z Czeremchy, a ich wysokość była uzależniona od uzyskanego miejsca w konkursie, a także od liczebności zespołu. Podstawą podziału nagród był werdykt komisji konkursowej w składzie: prof. Jerzy Śródkowski z Białegostoku, Jerzy Zawisza z Warszawy, Tadeusz Strużecki z Mińska, Wiktor Hubicz i kompozytor, laureat Nagrody Państwowej Andrej Bandarenko z Grodna. Wszyscy członkowie jury posiadają wysokie kwalifikacje muzyczne i bogate doświadczenia w pracy z wykonawcami.

Jeśli chodzi o "bzdurny" dyplom, to takowych wogóle nie było. Natomiast normalne dyplomy (podobnie jak na każdej szanującej się imprezie), których wartość wykonawcy cenią nierzadko znacznie wyżej niż przysłowiową mamonę, zostały przygotowane wszystkim laureatom i większości z nich je przekazano. Dyplom taki przygotowany został również duetowi "Arpa" i jeśli laureatka Magda Michalczuk ( nie jej matka) zechce go odebrać, to zapraszamy do ZG BTSK. Natomiast jeśli ocenia ona dyplom zgodnie z kryteriami matki, to takowa czynność nie ma żadnego sensu i wtedy zaproszenie cofamy.

Warto też wspomnieć o haśle "Nie ma gali bez Ali". Z powyższych informacji wynika, że p. Ala Dubec, podobnie jak p. Mirosław Kowalski otrzymali jako laureaci nagrody, których wartość finansowa jest równa nagrodom "Arpy". Jedyną przyczyną zatem ironii i cynizmu, którą okazuje korespondentka "Niwy" p. Ali Dubec jest "bezinteresowna" zawiść. Popularność p. Ali Dubec wynika z jej niekwestionowanego talentu (są to oceny nie tylko "mafii" z BTSK, ale bardzo wielu specjalistów i komisji konkursowych) i dużej pracowitości, zarówno jako wykonawczyni jak i kierownika muzycznego zespołów dziecięcych, młodzieżowych i nie tylko. Wysoka ocena jej wykonawstwa, o której mowa w prasie, jest oparta na faktach, natomiast insynuacje czytelniczki zapewne na bezinteresownej nienawiści, chęci zniszczenia przeciwnika. Miejmy tylko nadzieję, że te brudne insynuacje nie zniechęcą sympatycznej p. Ali Dubec do dalszej pracy nad sobą i prowadzenia zespołów tak bardzo potrzebnych zarówno cerkwi prawosławnej jak i kulturze białoruskiej.

Jeśli córka korespondentki więcej w konkursie udziału nie weźmie to należy jej współczuć z powodu wyjątkowo głupich i nieodpowiedzialnych decyzji matki, bo sama wydaje się być bardzo sympatyczna, mądra i utalentowana. BTSK jako organizator, nie tylko Magdzie Michalczuk, ale i wszystkim laureatom nie jest w stanie ufundować bardzo wysokich nagród, chociaż barbdzo by tego pragnęło i to nie ze względu na brak dobrej woli, ale wyłącznie z powodu ubóstwa finansowego. Wszystkie podane w niniejszej odpowiedzi informacje znajdą pełne potwierdzenie w faktach podawanych do publicznej wiadomości podczas festiwalu, a także zawartych w protokołach jury i listach pokwitowań nagród, skrupulatnie przechowywanych w dokumentacji Zarządu Głównego BTSK.

Na zakończenie chciałoby się zadać pytanie: O co chodzi w tym szaleństwie? Skoro Magda Michalczuk i Ala Dubec zajęły w swoich duetach I miejsca i skoro obie otrzymały jednakowej wartości nagrody, to jaki cel przyświeca Zofii Michalczuk? Czyżby walka o sprawiedliwość po białorusku?

A może nieodparte pragnienie za-prezentowania honoru i morale Białorusinki? Jeżeli "po takim prysznicu" jak pisze zainteresowana "wstyd będzie się przyznać, że się jest Białorusinem", to wydaje się iż prawdziwi, szlachetni Białorusini z tego "wstydu" korespondentki mogą się jedynie ucieszyć.

**SEKRETARZ**
**Zarządu Głównego BTSK**
**Walentyna Łaskiewicz**

## Наш зямляк — акадэмік Беларускай акадэміі навук

У канцы сакавіка агульны сход акадэмікаў Беларускай акадэміі навук выбраў прафесара **Васіля Чачугу**, загадчыка кафедры біялогіі Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, — замежным членам Беларускай акадэміі навук.

Прафесар Васіль Чачуга — наш зямляк, нарадзіўся 30 кастрычніка 1930 года ў вёсцы Плюцічы, што ў чатырнаццаці кіламетрах ад Бельска-Падляшскага.

Ад 1981 года прафесар Васіль Чачуга — сапраўдны член Нью-йоркскай акадэміі навук.

## Веласіпедыст, будзь асцярожны!

Люблю час ад часу праехацца на веласіпедзе па вуліцах Белавежы. Гэта карысна для здароўя і адначасова знаеш, што новага дзеецца. Пры нагодзе палюбуешся і надта прыгожымі ў некаторых месцах краявідамі. Усё ж ёсць адно „але”. Калі будзеш занадта разглядацца па баках, можаш далёка не заехаць. Што я, вось, прыкмеціў! У шматлікіх месцах ляжаць кучкі дробна пабітага шкла. Быццам нехта спецыяльна яго панасыпваў. Не хочацца верыць, што людзі пачалі раптам зусім выпадкова біць на вуліцах бутэлькі і іншы шкляны посуд. Раней я такой „эпідэміі” не прыкмячаў. Так сабе думаю, мо нейкая вулканізацыйная майстэрня ці крама з камерамі прыдумала ў такі спосаб здабыць сабе кліентаў?

**П. Байко**

## З думкай пра дзяцей

Гасцямі VI Агульнага сходу дэлегатаў прафсаюзаў „Салідарнасць” Беластоцкага рэгіёна былі кіраўнікі Магілёўскай абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларусі — яе старшыня **Сяргей Абадоўскі** і ягоны намеснік **Сяргей Іваноў**. Абедзве прафсаюзныя структуры супрацоўнічаюць ужо некалькі гадоў і ў сферы іх зацікаўлення, апрача тыпова арганізацыйных пытанняў, апынуліся справы аздараўлення дзяцей, пацярпеўшых у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

— У мінулым годзе на адпачынку і лячэнні прабывала ў Польшчы 200 нашых дзяцей, — паінфармаваў Сяргей Іваноў. — Арганізатарамі пабыўкі з польскага боку выступілі прафсаюзы „Салідарнасць” з Беластоцкага і Шлёнска-Дамброўскага рэгіёнаў. Гэтую гуманітарную акцыю будзем працягваць. Беластоцкія дэлегаты прынялі на сваім сходзе пастанову аб супрацоўніцтве з нашым Свабодным прафсаюзам, у якой Управа рэгіёна абавязана даць „усялякую неабходную дапамогу, як медычную, так і арганізацыйную, пры наладжванні адпачынку для дзяцей, якія захварэлі ў выніку экалагічнай катастрофы ваколіц Магілёва і аварыі на Чарнобыльскай АЭС”. Дагэтуль аздараўленнем беларускіх дзяцей займаліся па сваёй ініцыятыве некаторыя рэгіянальныя структуры „Салідарнасці”. Маем надзею, што на агульнапольскім з’ездзе гэтага прафсаюза справа шырокага супрацоўніцтва са Свабодным прафсаюзам Беларусі набудзе афіцыйны міжнародны характар, што несумненна дапаможа арганізаваць адпачынак для хворых дзяцей з Беларусі. Са свайго боку мы прапануем абмен групамі моладзі і ў гэтым годзе прадугледжваем адпачынак для польскіх дзяцей у Беларусі.

Беларускім прафсаюзам у арганізаванні адпачынку вялікую духоўную і матэрыяльную дапамогу аказвае Праваслаўная царква. Кіраўнікоў Магілёўскай абласной арганізацыі СПБ прыняў таксама архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. У ходзе гутаркі абмяркоўвалася далейшая падтрымка для гэтай гуманітарнай акцыі.

**(л)**

# Стройныя, багатыя Чыжы

*Працяг са стар. 1*

У Чыжах гэтую датацыю ўхвалілі перш за ўсё з думкай пра новую святліцу.

*Сакратар Управы гміны Марыя Ляшкевіч.*

А як выглядае праблема беспрацоўя ў гэтай урадждайнай ваколіцы? Гміна зараз арганізуе інтэрвенцыйныя работы для 11 чалавек. Найчасцей прыбіраюць яны публічныя месцы. Зважыўшы, што ў саміх Чыжах аж 5 прыпынкаў, ёсць дзе накіраваць беспрацоўных.

Найбяднейшым жыхарам дапамагае грамадская апека. На 3400 жыхароў толькі 22 асобы ў гміне карыстаюцца гэтай дапамогай.

Нягледзячы на ўсе спрыяльныя абставіны, Чыжы перажываюць свае цяжкія гады. Перамены ў краіне не абмінулі і гэтую мясціну. Сяло старэе, маладыя людзі не бачаць сэнсу ў працы на гаспадарцы. Зрэдку заязджаюць сюды па справах людзі з горада. Хіба што за майстрамі будаваць катэджы на перыферы Гайнаўкі ці Бельска.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## Яны найбольш чытаюць

Гмінная публічная бібліятэка ў Дубічах-Царкоўных мае 10 тысяч кніжак і 166 чытачоў. У мінулым годзе бібліятэка купіла 300 кніжак за 7 мільёнаў 600 тысяч злотых. Тут прытульна, поўна кветак.

У размове з маладой бібліятэкаршай Багуславай Самосюк я даведаўся, што ў Дубічах можна пачытаць кніжкі членаў Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”, між іншым Алеся Барскага, Віктара Шведа, Мікалая Гайдука, Сакрата Яновіча і Васіля Петручука, літаратурныя альманахі „Белавежа”, беларускія календары з літаратурнымі творамі „белавежцаў”. У бібліятэцы беларускія і рускія кніжкі займаюць пачэснае месца і гэта цешыць. Важную ролю ў чытальніцтве беларускіх кніг адыгрывае „Ніва”, якая заўсёды мае тут сваіх верных чытачоў.

Многа кніжак чытаюць дарослыя: Ян Леанюк з Рудкі, Валянціна Пень з Тафілаўцаў ды Ніна Бачынская і Мар’я Марчук з Дубіч-Царкоўных. Сярод дзяцей і моладзі верныя чытачы гэта: дзве Кацярыны Рыбак, Ян Галко і Альжбета Стэпанюк з Тафілаўцаў, Анэта Рута, Данель Рута і Кшыштаф Рэтэль з Рудкі, Каміля Кірэйчык з Дубіч-Царкоўных, Івона Богунь са Старыны і іншыя.

**Янка Целушэцкі**

# Пра выстаўку і 25 Сакавіка ў Гданьску

20 сакавіка 1995 г. у Бібліятэцы Польскай акадэміі навук у Гданьску адкрылася выстаўка „Выданні нацыянальных меншасцей у Польшчы 1945-1995”, арганізатарам якой з'яўлялася Беларускае культурнае таварыства „Хатка”. Дзякуючы прыватным асобам, між іншым Анджэю Васькевічу (гданьскі літаратар), прафесару Анджэю Хадубскаму з Гданьскага універсітэта, Паўлу Крамінскаму з Саюза ўкраінцаў у Польшчы, армяніну Антону Багдановічу, а таксама Бібліятэцы ПАН, выдавецтвам і ўкраінскім, яўрэйскім, славацкім, грэчаскім, літоўскім, беларускім, цыганскім, татарскім і нямецкім арганізацыям, на выстаўцы сабралася каля 200 найменняў розных выданняў: прэсы, кніжак, календароў, паштовак. Экспанаваліся таксама часопісы пра нацыянальныя меншасці: „Sprawy Narodowościowe”, „Akcent”, „Borussia”, „Krasnogruda”, „Pomerania”, „Kontrasty”, кніжкі Ежы Тамашэўскага, Богдана Скарадзінскага, Андрэя Садоўскага і іншых ды апошнія прэсавыя публікацыі пра нацыянальныя меншасці ў газетах „Rzeczpospolita” і „Gazeta Wyborcza”. Цікавую кампазіцыю выстаўкі запланавалі і выканалі Іра Гаданчук і Каця Мацкевіч.

На адкрыццё прыбыло шмат гасцей. Дырэктар бібліятэкі Збігнеў Новак сказаў, што „рэдка здараецца, каб на адкрыцці было столькі людзей”. На жаль, не здолелі прыехаць прадстаўнікі ўсіх выдавецтваў і арганізацый нацыянальных меншасцей. Тым больш прыемна было бачыць Мечыслава Ваецкага з Зялёнай Гуры (аўтара артыкулаў і кніжкі пра грэкаў у Польшчы), Пятра Пэжыну з Яўрэйскага гістарычнага інстытута, журналістаў і прадстаўнікоў гданьскіх арганізацый нацыянальных меншасцей. Прысутнічалі таксама консулы Беларусі — Ігар Касцюк і Украіны — Ігар Радзюк. Ваяводскія ўлады прадстаўляў Бернард Матэа — дырэктар аддзела грамадскіх спраў.

Адкрыў выстаўку дырэктар Збігнеў Новак. Дарэчы, ён напісаў артыкул пра Ілью Капіевіча, якога „Граматыка” захоўваецца ў гданьскай бібліятэцы. Дырэктар, як выяснілася, сам родам з Украіны, расказаў пра многакультурнасць і шматнацыянальнасць Гданьска, пра багатыя няпольскія кнігазборы гданьскай бібліятэкі. Асновай бібліятэкі ў канцы XVI стагоддзя сталі італьянскія кнігазборы Баніфацыё д'Орцыё, які вёз кнігі для Мікалая Радзівіла ў Нясвіж. Але марская катастрофа і пажылы ўзрост не дазволілі італьянскаму рэфарматару прабрацца ў Літву. Застаўся ён у Гданьску да канца свайго жыцця, а ягоныя кнігі сталі асновай гарадской бібліятэкі. Так на працягу стагоддзяў бібліятэка папаўнялася замежнымі выданнямі — нямецкімі, англійскімі, італьянскімі.

Пра ідэю выстаўкі пра „засвойванне чужаземшчыны” гаварыў Мацей Канапацкі, які ў сваёй універсальнай натуры дасканала спалучае сваю татарскасць з беларускасцю, польскасцю і літоўскасцю.

Найбольш багатымі экспазіцыямі паказаліся беларускія, яўрэйскія, літоўскія і ўкраінскія календары. Відома, што немагчыма было памясціць на выстаўцы ўсё, што выдалі за 50 гадоў нацыянальныя меншасці. Найбольшае зацікаўленне выклікалі літоўскія календары, паштоўкі і тэлефонная кніжка, нямецкая (польска- і нямецкамоўная) прэса, цыганскі гараскоп, а таксама выданні грэкаў і армян, пражываючых у Польшчы. Выстаўку ўпрыгожылі каляровыя часопісы „Rrom p-o drom” і „Život”. На карце Польшчы былі пазначаны месцы, у якіх цяпер выдаюцца меншасныя часопісы. Гэта перад усім паўночна-ўсходняя Польшча.

Дзякуючы фінансавай падтрымцы Аддзела культуры, навукі і спорту Ваяводскай управы і асабістаму заангажаванню Ірынея Лаўрашука, удалося зрабіць каталог-даведнік па выстаўцы (рэдакцыя — Лена Глагоўская, камп'ютэрны склад і друк — Ірыней Лаўрашук і Анэта Росяк, уступ — Анджэй Васькевіч і Лена Глагоўская).

Выстаўка будзе адкрыта да 22 красавіка і пры нагодзе пабыўкі ў Гданьску можна яе наведаць на вул. Валовай, 16. Адкрыццё выстаўкі планавалася на 24 сакавіка, каб прымеркаваць яе да ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Але калі аказалася, што можна яе адкрыць раней, мы, дзеля яе прадаўжэння апярэдзілі на некалькі дзён гэты тэрмін, тым больш, што 25 сакавіка выпадала якраз у суботу. Такім чынам стварылася дадатковая нагода спаткацца яшчэ раз у старамейскай ратушы ў Гданьску (вул. Кожэнна, 33/35). Каб папоўніць выстаўку гісторыяй, я расказала прысутным на святкаванні пра вынікі сваіх доследаў наконт беларускіх рэлігійных выданняў у II Рэчы Паспалітай.



*Консул Рэспублікі Беларусь Ігар Касцюк аглядае літоўскія выданні.*

На вечарыну прыйшло шмат людзей. Напачатку ўсе выслухалі гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Пасля Міхась Куптэль успомніў пра традыцыю БНР і прачытаў ліст ад Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”, якое заклікае да яднання пад бел-чырвона-белым сцягам. Дзеткі з беларускай школкі — Цэліна, Алеся і Тамаш — прадэкламавалі патрыятычныя вершы Віктара Шведа, Казіміра Сваяка, Алеся Мілюця. Патрыятычныя песні Альбіна Стэповіча выканала трыо Ірыней Лаўрашук, Іра Гаданчук і Аня Пяткун. Каця Мацкевіч прачытала верш Янкі Купалы „Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні” — вельмі падыходзячы да нашай эміграцкай долі. Каб падтрымаць свойскі настрой, Зіна Краеўская праспявала беларускія народныя песні. Усе слухалі з вялікай увагай і, мяркуючы па цішыні ў зале, усе думкамі былі далёка ад Гданьска — недзе пад бацькоўскай ці дзедаўскай страхой.

Сумна было толькі, што не наведалі нас з нагоды такога свята, якое для свядомых беларусаў заўсёды атаясамліваецца з надзеяй на сапраўдную беларускую дзяржаўнасць, ні прадстаўнікі Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Гданьску, ні прадстаўнікі мясцовых улад.



*На адкрыцці выстаўкі.*

**Лена Глагоўская**
**Фота аўтара**

# „БЕРАСЦЕЙСКАЯ УНІЯ”*)

**— некалькі заўваг да кніжкі Міколы Гайдука**

Толькі што выйшла з друку кніжка вядомага беларускага эсэіста Міколы Гайдука, прысвечаная Берасцейскай уніі. Праз год адзначаць будзем чатырохсотую гадавіну гэтай гістарычнай падзеі, якой наслядоўнасці трываюць па сённяшні дзень.

Кніжка Міколы Гайдука безумоўна будзе інспіраваць да шматлікіх дыскусій. Аўтар вельмі смела прадставіў складаныя адносіны паміж усходнім і заходнім хрысціянствам, не скрываючы сваіх ацэнак і сімпатыяў. Пакарыстаўся публіцыстычнай формай, дзякуючы чаму кніжку чытаецца вельмі лёгка.

Мікола Гайдук, хаця піша пра гістарычныя факты, глядзіць на іх як чалавек, які мае ясна акрэсленую нацыянальнасць і веравызнанне і з гэтай пазіцыі ставіць свае ацэнкі. Вельмі добра, што аўтар не стараўся ўпрыгожыць кніжку г.зв. „навуковым апаратам” і абмежаваўся толькі да гістарычнага нарысу. Дазваляе гэта яму на больш свабодную інтэрпрэтацыю фактаў, фармуляванне тэзісаў і высноваў.

Гісторык ніколі не можа дазволіць сабе на такую смеласць як эсэіст ці літаратар, бо, пакуль паставіць тэзіс, мае абавязак улічыць усе крыніцы і доказы, якія яго падтрымліваюць і абвяргаюць.

Мікола Гайдук на тэму Берасцейскай уніі напісаў не адзін артыкул і гэтая кніжка з'яўляецца як бы падсумаваннем яго роздумаў вакол гэтай падзеі. Няма сумнення, што веды аўтара на тэму Уніі заслугоўваюць таксама на асаблівую ўвагу навуковага асяроддзя.

Непатрэбна — на маю думку — аўтар далучыў да гэтай кніжкі тры першыя раздзелы, прысвечаныя гісторыі адносін паміж усходнім і заходнім хрысціянствам ад III да XV стагоддзяў. Перш за ўсё генезіс падзелу на Усход і Захад быў больш складаны, чым інтрыганцтва паасобных епіскапаў. На Усходзе трывала і развівалася рымская дзяржаўнасць, названая пасля Візантыяй. На Захадзе свабодна бушавалі германскія варвары. На Усходзе былі дзве апоры тагачаснага парадку — Царква і імператар, на Захадзе толькі прысутнасць рымскіх епіскапаў напамінала жыхарам Італіі, дзе быў цэнтр антычнага свету. Таму не епіскапы Рыма стварылі культ свайго асаблівага значэння ў хрысціянскім свеце; іх пазіцыю вызначала палітычная і псіхалагічная сітуацыя Італіі. Па абодвух баках Далмацінскай краіны ўзніклі дзве розныя цывілізацыі, а рэлігійныя падзелы былі толькі іх паслядоўнасцю.

Таксама крыжовыя паходы не былі мэтанакіраванымі супраць усходняму хрысціянству. Мікола Гайдук пераацэньвае тут інтэлектуальны патэнцыял Лацінскай Еўропы. Глядзіць трошку на XII ці XIII стагоддзе праз прызму сучаснасці. Так у сапраўднасці на Усход рушыла даволі прымітыўная арда, якую ўзначальвалі непісьменныя графы і каралі. Ішлі ў легендарную Палесціну, пачуўшы, што ёсць там вялікія і багатыя гарады, краіны перапоўненыя „малаком і мёдам”, і горы золата. Крыжаносцы не памыляліся. Тое, што пабачылі, было больш прывабнае і каштоўнае, чым іх уяўленні. Трэба памятаць, што на Захадзе толькі пачыналі тады паўставаць гарады, развівацца гандаль, рыцары найчасцей займаліся разбоем, а святароў хутчэй можна было пабачыць на полі бітвы, чым у святынях падчас рэлігійных роздумаў. На ўсходзе былі бібліятэкі, водаправоды, бліскучыя ад золата цэрквы, філосафы, паэты, юрысты, а вада служыла не толькі для піцця. Захад пачаў мяняцца толькі пад уплывам таго, што яго феадальная эліта пабачыла на Усходзе.

Зверствы лацінікаў у здабытым імі Канстанцінопалі, якія так вобразна прадстаўляе Мікола Гайдук, не былі чымсьці незвычайным. Для тадышніх людзей з Захаду было гэта нормай, апраўданай тагачаснай традыцыяй. Партнёрам для Візантыі ў той час маглі быць ісламскія арабы, якія прадстаўлялі падобны цывілізацыйны ўзровень, але ў ніякім выпадку заходнееўрапейскія феадалы ці сельджуцкія туркі, якія наплылі з усходняй Азіі. Не надта трапным лічу спалучэнне падзей звязаных з крыжовымі паходамі з палітычнай і рэлігійнай сітуацыяй у Рэчы Паспалітай у XVI стагоддзі. Але гэтыя мае заўвагі кранаюць малаважныя фрагменты працы Міколы Гайдука. Асноўная тэма кніжкі — Берасцейская унія і яе паслядоўнасці, патрабуе больш аналітычнай рэцэнзіі, бо аўтар пасля некалькіх гадоў даследаванняў прадставіў даволі лагічную структуру гістарычных падзей, якой паасобныя элементы можна было б адабраць ці абвяргаць, карыстаючыся толькі нуднымі навуковымі метадамі.

**Яўген Мірановіч**

---

*) *M. Hajduk, Unia brzeska, 1596, Białystok 1995 wyd. Orthdruk, ss. 126.*

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXVIII. Светач

У трагічныя для праваслаўнай Царквы і яе веруючых часы ў канцы XVI і ў першыя дзесяцігоддзі XVII ст.ст. праваслаўныя змагаліся з каталіцка-уніяцкай і паланізацыйнай навалай, як толькі патрапілі. Аднак сілы былі няроўныя: рашучую перавагу мелі католікі з уніятамі, бо за імі стаялі кароль з усімі сіламі дзяржаўнымі і вайсковымі Рэчы Паспалітай, усебакова падтрыманымі магутнасцю сусветнага каталіцкага Касцёла. Праваслаўныя ж у сваю абарону маглі супрацьставіць гэтай навале толькі моц свайго духа і надзею на Гасподнюю дапамогу. І Гасподзь не пакінуў Свае Царквы і яе вернікаў на згубу. За іх уступілася цэлая кагорта выдатных і ахвярных дзеячаў. Вядучую ролю сярод іх адыгрываў князь Васіль Канстанцінавіч Астрожскі, сын славутага князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага, кіраўніка выдатнай перамогі беларускай арміі над маскоўскімі захопнікамі ў 1514 г. пад Оршай, ваяводы троцкага, сенатара.

Пра князя Васіля Астрожскага часта згадвалася ў папярэдніх адрэзках „Каранёў”, цяпер жа прыпомнім асноўныя факты з яго жыцця і дзейнасці.

Нарадзіўся князь Васіль у 1527 г. у старажытным беларускім горадзе Тураве на Палессі, сталіцы колішняга Тураўскага княства, якое разам з Полацкім княствам у раннім сярэдневякоўі сталі асновай беларускай дзяржаўнасці. Яго маці, другая жонка князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, сваёй годнасцю і становішчам у тадышнім грамадстве не ўступала мужу. Княжна Аляксандра Сямёнаўна Слуцкая належала да роду славутых Алелькавічаў, была ў простай лініі праправнучкай князя Уладзіміра (1330—1398), сына вялікага князя Альгерда-Аляксандра (1296—1377), яе бацька, князь слуцкі Сямён Міхайлавіч (1460—1505), і родны брат, князь Юрый Слуцкі (1492—1542), упісаліся ў гісторыю Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) перш за ўсё ахвярнай абаронай беларускіх зямель ад татарскіх нашэсцяў, асабліва ў гадах 1502 і 1506, калі наезнікі некалькі разоў спрабавалі здабыць Слуцк.

Княства Слуцкае заўсёды было бастыёнам праваслаўя. У ім знаходзілася некалькі манастыроў, многа цэркваў, у самім горадзе Слуцку ў пачатку XVI ст. дзейнічалі праваслаўныя два манастыры і некалькі храмаў. Княжна Аляксандра была выхавана ў глыбокай пашане да веры продкаў і атрымала старанную, як на тыя часы, адукацыю. Выходзячы замуж за князя Канстанціна Астрожскага, яна ўзбагаціла і ягоныя аграмадныя ўладанні сваім вялікім пасагам і выдатна пасадзейнічала на іхнюю супольную шчодрую дабрачыннасць на карысць праваслаўнай Царквы, храмавага будаўніцтва, развіцця духовай культуры беларускага і ўкраінскага народаў.

Дзяцінства і юнацтва Васіля Астрожскага склалася надзвычай нешчасліва. На трэцім годзе жыцця ён страціў бацьку, на чацвёртым — маці, а ў адзінаццаць гадоў.— адзінага брата Ільлю, 30-гадовага старасту брацлаўскага і вінніцкага. Княжыча Васіля выхоўваў дзядзька, родны матчын брат, князь Юрый Сямёнавіч Слуцкі — мужны, адукаваны і шляхетны чалавек, дбайны апякун праваслаўнай Царквы. Ён паклапаціўся пра старанлівае выхаванне пляменніка ў глыбокай набожнасці і забяспечыў яму адпаведную яго грамадскаму становішчу грунтоўную адукацыю. Княжыч-сірата быў адным з самых багатых людзей у Вялікім княстве Літоўскім: да яго належала 25 гарадоў, 10 мястэчак і 670 вёсак, з якіх у ягоную казну штогод паступаў астранамічнай велічыні прыбытак — болей за адзін мільён злотых.

Не толькі родны дзядзька, але таксама кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Стары не спускаў пільнага вока з адзінага спадчынніка аграмаднай фартуны і ваеннай славы. З аднаго боку клапаціўся пра высокае яго месца ў каралеўскім акружэнні, а з другога рабіў усе намаганні, каб фартуна князёў Астрожскіх апынулася ў каталіцкіх руках. І, вядома, дабіўся таго, ажаніўшы праваслаўнага князя Васіля Астрожскага з фанатычнай каталічкай, кашталянкай кракаўскай Зоф'яй Тарноўскай. У выніку багацці князя яшчэ павялічыліся, дзякуючы аграмаднаму пасагу за жонкай і спадчынай, якую яна атрымала па бацьках. Таксама пасыпаліся быццам з рога дастатку розныя наданні. Князь быў надзелены каралём спачатку годнасцю ваяводы ўладзімірскага, а затым высока цэненай у дзяржаве — ваяводы кіеўскага, атрымаў таксама сенатарскае крэсла. Затое старажытны ўкраінска-беларускі княжацкі род спрадвечных абаронцаў праваслаўя пачаў хутка акаталічвацца і паланізавацца.

Відаць, князь Васіль Астрожскі ўсвядоміў гэтую трагедыю. І хаця не здолеў адстаяць для праваслаўнай веры і роднай культуры сваю сям'ю, дык усю энергію накіраваў на абарону ад акаталічання і паланізацыі беларускіх і ўкраінскіх зямель. У яго аграмадных уладаннях было каля 20 праваслаўных манастыроў і 600 цэркваў і ўсе яны атрымоўвалі неабходнае забеспячэнне. Князь клапаціўся пра належны ўзровень адукацыі духавенства і баярства. Яго сядзіба ў Астрозе на Валыні сталася цэнтрам, у які з усяго тадышняга праваслаўнага свету сцякаліся знакамітыя багасловы, біблісты, мовазнаўцы, мастакі, друкары. Князь у 1576 г. заснаваў славутую Астрожскую акадэмію, вышэйшую школу, у якой, між іншым, выкладалі Кірыла Лукарыс — будучы патрыярх канстанцінопальскі, Нікіфор — патрыяршы экзарх, потым, замучаны голадам у лёхах Мальбарка, Ян Лятас — прафесар Кракаўскага універсітэта, католік і іншыя тагачасныя навуковыя славутасці. У школе выкладалі царкоўнаславянскую, грэчаскую, лацінскую мовы, арыфметыку, рыторыку, музыку, логіку і інш. Школа, адпаведна забяспечаная матэрыяльна князем, перажыла яго, бо праіснавала да 1636 г. Яна падрыхтавала вялікую кагорту ўсебакова адукаваных, ахвярных змагароў за праваслаўе, родную мову і культуру на Украіне і Беларусі. З яе выйшлі пакаленні будучых святароў, настаўнікаў брацкіх і манастырскіх школ, між іншым, у Вільні, Бярэсці, Слуцку, Тураве, Бельску і інш.

Папярэдне згадвалася, што ў Астрогу на сродкі князя Васіля беларускія друкары Іван Федаровіч (Фёдараў) і Грынь Івановіч (родам з Заблудава) заснавалі каля 1578 г. друкарню. Яны надрукавалі там шэраг кніг для школ („Азбуку”), царкоўнага карыстання („Псалтыр і Новы Запавет”) і славутую „Астрожскую біблію” — адно з самых выдатнейшых дасягненняў друкарскага майстэрства Усходняй Славяншчыны ў XVI ст. Гэтае самае поўнае і самае аўтэнтычнае выданне ўсіх кніг Свяшчэннага Пісання ў тлумачэнні на царкоўнаславянскую мову было дзейснай зброяй у руках абаронцаў праваслаўя ад наступу уніі, каталіцызму і паланізацыі. З астрожскай друкарні таксама выйшаў „Апакрысіс або адповедзь” Хрыстафора Філалета на кнігу „Апісанне і абарона сабору рускага берасцейскага” езуіта Пятра Скаргі, якую пераклаў на старабеларускую мову уніяцкі ідэолаг Іпацій Пацей. У „Апакрысісе” Філалет абараняе праваслаўную Царкву і даказвае, што унія — гэта злачынства; ён папярэджвае, што насаджэнне уніі можа давесці да ўнутранай, грамадзянскай вайны, якая „межи всеми злыми речами на свете есть наигоршею”, бо азначае братазабойчую разню, знішчэнне, здзічэнне. Ён звяртаецца да каталіцкіх і уніяцкіх дзяржаўных і касцельных дзеячоў, каб яны ўсвядомілі сабе цяжкое становішча супольнае Айчыны, Рэчы Паспалітай, і змянілі свае адносіны да праваслаўных, бо неабходна еднасць і згода ўсяго грамадства перад пагрозаю з боку татараў і туркаў. З тае ж друкарні выйшлі ў свет важкія сваімі доказамі і знакамітыя літаратурным майстэрствам творы Астрожскага Клірыка пра „разбойніцкі ферарскі або фларэнцкі сінод” і іншыя, у якіх гэты, невядомы па фактычнаму імю, аўтар раскрывае захопніцкія намаганні Рыма, дае таксама дасціпныя адказы на прапагандысцкія пасланні уніяцкага мітрапаліта Пацея. У астрожскай друкарні таксама была складзена кніжачка невядомага па прозвішчы свяшчэнніка Васіля „Пра адзіную праўдзівую веру праваслаўную” — яна моцна падтрымлівала на духу праваслаўных.

Князь Васіль Канстанцінавіч, як відаць з прыведзеных прыкладаў, ад сваіх продкаў пераняў глыбокую набожнасць і быў ахвярным апекуном і абаронцам праваслаўнага беларускага і ўкраінскага люду, і гэта стала прычынай таго, што ўжо пры жыцці яго сталі называць не Васілём, але па бацьку — Канстанцінам.

Гасподзь надзяліў князя Васіля непераможнай душэўнай сілай. Таму што лёс не ашчаджаў яго. Абедзьве яго дочкі выйшлі замуж за католікаў, сыны — Канстанцін і Іван-Janusz перайшлі ў каталіцызм. Усе яны цалкам адцураліся ад веры і традыцый роду Астрожскіх, але сутаргава трымаліся яго багаццяў. Адзінай апорай князю быў яго старэйшы сын, княжыч Аляксандр, валынскі ваявода, і ў ім пакладаў князь Васіль усю сваю надзею на працягванне родавай традыцыі. Аднак прысуд Госпада быў іншы: у 1603 г. малады князь памёр. Немагчыма сабе ўявіць роспач сівенькага старэчы, схіленага над труною свае адзінае надзеі... Але ён перажыў і гэты найстрашнейшы ўдар і да апошніх сваіх дзён, з незвычайнай рашучасцю перамагаючы ўсе няшчасці, перашкоды і старэчую слабасць, дзейнічаў дзеля дабра праваслаўя і роднай зямлі.

Князь Канстанцін Васіль Канстанцінавіч Астрожскі памёр у 1608 г.

Але трагедыя князя не закончылася разам з яго смерцю. Праз некалькі дзесяцігоддзяў яго ўнучка загадала дастаць з грабніцы яго астанкі і ахрысціць іх па каталіцкаму абраду.

**Мікола Гайдук**




*МІРА ЛУКША*

*Сяргею Кірушчанку*

там куды мы ідзем сіні агонь
цярпліва грэе аграмаднае цела
паветра
чакае нас успыхвае потым знікае
і зноў
з ціхім сыкам бы хто яму даў алкаголю
сваю галаву падымае выглядае нас
на дарогах

а мы вокны расчынім у сусветнае дно
ці то проста прастора над намі
і адтуль зазірне нам у вочы агонь
ртутнай лінзай іголкай са сталі

*ЮРЫ БАЕНА*

* * *

Я ўсё жыццё магу трываць
у скромнасці,
самотнасці,
знявазе,

Побач магіл дзядоў ды прадзедаў
хадзіць —
не жаліцца
над лёсам,

Знявечанай Малой Айчыны боль
не дапускаць
да вуснаў...

Штодня аднак прашу:
Усемагутны Божа мой,
дапамажы
ўваскрэснуць Беларусі!




У сувязі з артыкулам А. Максімюка „Культура поўнасцю легальная” („Ніва” н-р 13 ад 26.03.1995 г.) заяўляю:

— я ніколі не была рэдактарам газеты „Навіны з гміны”,

— як член камісіі культуры прыпамінаю, што камісія культуры з'яўляецца органам рэкамендацыйным і не мае права „зачыніць газету” ці „выдзеліць бібліятэку” і напэўна не зрабіла гэтага ў Нарве,

— як пастаянны чытач „Нівы” я вельмі хацела б ведаць, ці спадар А. Максімюк пісаў гэты артыкул як журналіст „Нівы”, ці як нечы прэс-сакратар.

**Аліцыя Станько,**
**Ласінка**

# Рамбіт'95

Арганізацыя турніру „Рамбіт” стала ўжо традыцыяй у гміне Дубічы-Царкоўныя. Тут у далейшым працуюць тры пачатковыя школы — у саміх Дубічах, у Корніне і Грабаўцы — хаця вучняў з году ў год штораз менш.

Арганізатарам турніру выступіў Гмінны асяродак культуры (ГОК) і Школьны спартыўны саюз (СЗС). Спаборніцтвы „Рамбіт'95” прайшлі ў першы дзень вясны, дзякуючы чаму вучні замест прагулаў карысна правялі час. Мерапрыемства спраўна правёў апякун СЗС у Дубічах-Царкоўных Уладзімір Місяюк, а спартыўныя змаганні ацэньвала журы, узначаленае дырэктарам ГОКу Іалантай Сохай. Тэарэтычныя змаганні перапляталіся са спартыўнымі гульнямі. Вучні выказаліся вельмі добрым веданнем гісторыі і біялогіі, трохі горшым геаграфіі, польскай мовы і... спорту. Трапна разгадалі прымаўкі, паводле твbooranaga на іх вачах малюнка, калектывы са Старога Корніна і Дубіч-Царкоўных, а не ўдалася гэтая штука вучням з Грабаўца. У спартыўнай частцы турніру былі, між іншым, эстафета з трыма мячамі, удар па міні-варотах, гульня ў кеглі, разнавіднасці гонак, кідок у мішэнь, разгадванне з закрытымі вачыма прадметаў. Спаборніцтвы праходзілі ў атмасферы спартыўнага саперніцтва, а настаўнікі падбадзёрвалі сваіх вучняў да барацьбы.

Пасля чатырнаццаці вучнёўскіх спаборніцтваў перамаглі Дубічы-Царкоўныя, набраўшы 41 ачко, і Стары Корнін — таксама 41 ачко, затым на канцы апынуўся Грабавец з 33 ачкамі.

Потым турнір сталі працягваць дырэктары школ або іх прадстаўнікі. Школу з Дубіч прадстаўляў Юры Несцярук, са Старога Корніна — Крысціна Бяляўская, а з Грабаўца — Ірына Асіпюк. Вучні з цікаўнасцю назіралі, як іх настаўнікі разгадваюць крыжаванку, укладаюць абразок-галаваломку ці называюць мясцовасць на падставе прачытанага ім тэксту.

Турнір завяршыўся перамогай Дубіч-Царкоўных (50 ачкоў). Чарговыя месцы занялі школы са Старога Корніна (45 ачкоў) і Грабаўца (43 ачкі). Удзельнікам спаборніцтваў узнагароды ўручыла сакратар Управы гміны Галіна Шыманюк. Пераможцы з Дубіч атрымалі кубак і 5 баскетбольных мячоў. Школа са Старога Корніна была ўзнагароджана палітычным глобусам, футбольным мячом і двумя ракеткамі, а Грабаўцу дасталася настольная гульня „Манаполь”, дзве ракеткі і пяць набораў фламастэраў.

Дырэктар Іаланта Соха заявіла, што ў наступным годзе будзе пашыраны тэматычны дыяпазон турніру, а адборы да міжшкольных гульняў пачнуцца ў саміх школах. Магчыма, што ў традыцыю ўвойдзе тэрмін міжшкольных спаборніцтваў — 21 сакавіка. Такая ж развязка больш бяспечная і карысная, чым некантраляваныя прагулы вучняў у першы дзень вясны.

**Славамір Кулік**

Зорка
старонка для дзяцей

**ТАТА**

Узабраўся на страху
Тата барадаты.
На страсе
Усё трасе
Барадой патлатай.
Вецер з люлькі
Дым нясе
Над страхою,
Татам.
Тата ў жаху,
Тату страх:
Як тут злезці з даху?!

**Міра Лукша**

# Спяваюць, дэкламуюць, вучацца...

Прывітанне, сябры з Чыжоў! Вось, бачыце, урэшце прыйшла чарга і на вашую школу. Вы пэўна ўжо чакалі гэтага нумару „Зоркі", праўда? Я таксама ўвесь час пра вас думаю. Хай і апошнія чытачы нашай старонкі пазнаёмяцца з вамі.

**У Чыжах**
вялікая і людная школа. Вучыцца ў ёй 152 дзетак. Амаль усе ходзяць на беларускую мову, нават некаторыя католікі. Гэты прадмет выкладаюць беларусісты: Анна Лаеўская і Янка Карчэўскі. Вялікае ўражанне на „Зорцы" выклікала сустрэча з вучнямі.

Сёння пазнаёмім вас з сямі- і васьмікласнікамі. Мае новыя сябры вельмі добра валодаюць беларускай літаратурнай мовай. Другая справа, здаецца найважнейшая, што гавораць яны не толькі прыгожа, але і разумна.



*Вучні з шостага і сёмага класаў з настаўнікам беларускай мовы Янкам Карчэўскім.*

Сабіна Філіманюк — вучаніца сёмага класа. Сама яна паходзіць з Асоўкі, што ў 2 км ад Чыжоў. У „Зорцы" найбольш любіць яна чытаць пра жывёл, а на ўроках беларускай мовы з увагай слухае настаўніка. Сёлета Сабінка ўдзельнічала ў прадметным конкурсе па беларускай мове. За год зноў прыме ўдзел у гэтым цікавым конкурсе.

У сёмым класе вучыцца Арэк Якімюк. Хлопец вельмі любіць спяваць. Не дзіва. Аркавы бабка, дзед, бацькі і сястра спявалі і спяваюць дагэтуль. Вы пэўна чулі пра спявачую сям'ю Якімюкоў з Чыжоў? Тады, калі за некалькі гадоў і наш Аркадзь выступіць на беларускім фестывалі, не шкадуйце яму воплескаў.

Самай вялікай энтузіясткай беларускіх конкурсаў у Чыжах з'яўляецца Улька Карзуновіч. Ад першага класа яна спявае, дэкламуе, іграе на сцэне. Цяпер змагалася ў прадметным конкурсе. Улька найбольш любіць песні пра каханне. Сама яна родам з Лядаў.

— Гэта малая вёска, але дзяцей у нас многа, — расказвала яна.

Дзяўчынка збіраецца ў гайнаўскі Беларускі ліцэй. Разам з Уляй думае вучыцца Аня Сахарэвіч. Аня ўдзельнічала ў прадметным конкурсе па беларускай мове. Сама яна родам з Лянева. Дзяўчынка таксама любіць спяваць.

Галіна Міхалевіч і Галіна Брук таксама вучацца ў восьмым класе. Яны ўдзельніцы дэкламатарскага конкурсу. Далейшую вучобу будуць працягваць у бельскіх ліцэях.

Усе мае новыя сябры вельмі хвалілі свайго настаўніка беларускай мовы Янку Карчэўскага. У першы дзень вясны разам з ім пабывалі на „вагарах". І хаця на дворы было вельмі холадна і дажджліва, ніхто не хацеў вяртацца ў школу.

— Не забудзьце ўспомніць, што любоў да беларускіх конкурсаў і песень прывіла нам таксама пані Ніна Адамюк, — прасілі школьнікі.

І сапраўды, вучні з Чыжоў вельмі прыгожа спяваюць. Кожны, хто быў сёлета на аглядзе калляднай песні ў Драгічыне, сам у гэтым пераканаўся.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

З гісторыі Беларусі

# Рагнеда-Гарыслава

Пра слаўную Рагнеду гаварылі ўсе княжацкія двары ў тагачаснай Еўропе. Яна была не толькі прыгожай, разумнай і гордай дзяўчынай, але і самай пажаданай партыяй для сужонства.

У сваты адначасова прыбылі два князі — ноўгарадскі Уладзімір і кіеўскі Яраполк. Выбар, здавалася б, цяжкі, але не Рагнедзе.

— Не пайду за рабыніча, за Яраполка іду, — мела сказаць гордая княгіня.

Тут трэба сказаць, што Уладзімір быў сынам кіеўскага князя Святаслава і нявольніцы. У дахрысціянскія часы кожны князь мог мець столькі „жонак", колькі хацеў. Сам „малады" меў ужо каля тысячы палюбоўніц. Не мяшала гэта яму адчуваць сябе кавалерам, бо толькі тады шлюб і сужонства было важнае, калі партнёрка была княгіняй. І дзеці з такога сужонства складалі дынастыю княжацкага роду. Таму можна лічыць, што і Рагнеда кіравалася падобнымі прынцыпамі і не схацела за мужа сына нявольніцы. А тое, што яна сама, а не бацькі, выбірала мужа, сведчыць пра тонкія і высакародныя адносіны на княжацкім двары Рагвалода. Але гэтая адмова мела свае чорныя паслядоўнасці. Князь Уладзімір да таго раз'юшыўся, што вырашыў сілай дасягнуць сваю мэту. Гэта быў 980 год, 8 гадоў да прыняцця хрысціянства, калі таго ж самага Уладзіміра назавуць „хрысціцелем".

Пайшоў паходам Уладзімір на Полацк, зруйнаваў горад і на вачах Рагнеды забіў яе маці, бацьку і двух братоў. Рагнеду сілай прымусіў стаць сваёй жонкай. З гэтага сужонства нарадзіліся чатыры сыны і дзве дачкі. Самым старэйшым быў Ізяслаў.

Ішлі гады...

Князь Уладзімір ажаніўся з другой княгіняй, і стаў уводзіць хрысціянства. Аднак Рагнеда не магла дараваць сваёй крыўды. Аднойчы, калі князь наведаў яе і дзяцей, гордая палачанка прыдумала помсту. Вырашыла забіць спячага князя. У той момант Уладзімір і якраз прачнуўся, схапіў меч і хацеў засекчы няверную жонку. Але паміж іх увайшоў малы Ізяслаў з мячом і заявіў бацьку: „Не адна тут маці мая". Гэты маленькі абаронца так спадабаўся князю, што той даў яму дзедзічнае Полацкае княства. А Рагнеду, якую назваў Гарыславай, адправіў у толькі што збудаваны горад Ізяслаўль (зараз Заслаўе каля Менска). Менавіта гэты Ізяслаў, заняўшы дзедаў пасад, адрадзіў полацкую княжацкую дынастыю, якую называем Ізяславічамі, Гарыславічамі або Рагвалодавічамі.

Што сталася з іншымі дзецьмі Рагнеды?

Мсціслаў стаў чарнігаўскім князем, Яраслаў, названы Мудрым, князем ноўгарадскім і кіеўскім, Прадслава пабралася шлюбам з чэшскім князем Баляславам III Рудым, Прэніслава выйшла замуж за вугорскага прынца Ласла Сара Лысага. Дарэчы, унучкі Рагнеды таксама былі жонкамі еўрапейскіх манархаў. Анастасія — вугорскага караля Андрэя І, Лізавета — нарвежскага караля Гаральда III, а пасля дацкага караля Свена II. Наймалодшая Ганна выйшла замуж за Генрыха I Капета і стала каралевай Францыі.

А сама Рагнеда ў Заслаўі прыняла манаскі пострыг у манастыры св. Анастасіі і прапаведавала хрысціянства. Памерла яна ў 1000 годзе. Сёння для нас яе імя — сімвал мужнасці і любві да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару.

**З-ка**

**Увага!** „Зорка" прапануе нарысаваць вам княгіню Рагнеду або іншых герояў нашага апавядання. Самыя цікавыя рысункі мы надрукуем у „Зорцы", а сярод удзельнікаў разыграем гістарычныя кніжкі.

**З-ка**

## Валачобнікі

На Вялікдзень хадзілі ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі валачобнікі. Гэта былі спевакі, якія ўслаўлялі гаспадара і гаспадыню, іх дзетак, бабулю і дзеда. Гэты звычай узнік хутчэй за ўсё, каб беднякі і жабракі мелі магчымасць даста паесці ў гэтае свята, бо валачобнікаў частавалі рознай велікоднай ежай. А валачобнікі ў сваю чаргу жадалі ўсім дабрабыту, шчасця, каб ураджай быў добры, каб дзеці раслі прыгожыя ды разумныя. Але найбольш у валачобнікаў гулялі дзеці. Калі б вы хацелі пагуляць у сваёй школе ў валачобнікаў, калі ласка — вывучце гэтыя валачобныя песні:

* * *

Ідзе туча валачобная,
Валачобнікі-недакучнікі
Нячаста ходзяць, нядорага просяць,
У гадочак адзін разочак,
Пачынальніку — чырвоны злоты,
Яму чырвоны злоты на боты.
Падхопнічкам — па залоценькім,
А механошу — жыта калошу,
Хай ён нясе аж парвецца,
З яго Бог насмяецца.

* * *

Мы нячаста
К людзям ходзім
І нямнога
Сабе просім:
Хоць два злоты
Нам на боты,
Калі многа —
Паўпірога,
Калі сіла —
Хоць паўсыра.

* * *

Добры вечар, пане гаспадару!
Вясна-красна на ўвесь свет!
Заспяваем песню вяльможнаму пану,
Як і для пана, таксама для пані.
У панскім дварочку, як у вяночку,
Садам абсаджаны, гародам
гароджаны,
Панская ніва будзе ўрадліва,
Панскія дзеткі як у садзе кветкі,
Да навукі кемны, у размове прыемны.
Палажыце кладку, пазавіце ў хатку.

І можа напішаце ў „Зорку", як вы адчувалі сябе ў ролі валачобнікаў.

**Зорка**

## КРЫЖАВАНКА



**Вертыкальна:**
1) цячэ ў рэчцы,
2) за іх трасе настаўнік,
3) смерць, канчына,
4) выступае ў казцы разам з дзедам,
6) кары або сівы з капытамі,
7) хітры звер з казкі,
8) дом, кватэра,
9) „Інка" або чорная.

**Гарызантальна**
5) солены або зялёны з калючкамі ў агародзе,
6) песня на дабранач,
10) чырванее на марозе,
11) расце на лузе.

## Гульня „Воўк і гусі"

Гусяняты, пабраўшыся за рукі, становяцца ў кола, а ў сярэдзіне кола застаецца воўк і старая гуска.

Гусяняты танцуюць наўкола і крычаць:

— Дэр! Дэр! Дэр!

Тым часам воўк са старою гускаю тармосяцца ў коле. Воўк хоча схапіць гусянятак, а гуска не дае. Як воўк схопіць гусяня, гуска мусіць выкупіць яго (дае яйкі, арэхі, яблыкі, спявае, танцуе).

## Вясёлы куточак

*

Раніцай Міколка гаворыць сваёй маме:

— Больш у школу я не пайду.

— Чаму, сынок?

— Ай, мама... Зноў Марк будзе плявацца жаванай паперкай цераз трубку, зноў Янка будзе скакаць па партах, а Марыся пісаць любоўныя лісты... Не пайду і ўсё.

— Не, Коля, ты павінен ісці ў школу, — настойвае маці. — Па-першае, ты ўжо дарослы, а па-другое, ты дырэктар школы.

*

Прыходзіць Міколка са школы і гаворыць бацьку:

— Тата, я сёння дапамог старой бабулі перайсці вуліцу.

— О, які ты ў мяне малайчына. На табе цукерку.

Праз дзень Міколка прыходзіць дамоў з сябрамі і гаворыць:

— Тата, мы сёння дапамаглі старой бабулі перайсці вуліцу. Пачастуй нас цукеркамі.

— А чаму вас так шмат?

Бабуля супраціўлялася, пераходзіць праз вуліцу не хацела.

*

Маці пытаецца ў Вовачкі:

— Сынок, а дзе дзеўся твой школьны дзённік?

— А яго Міцька ўзяў, каб бацькоў папалохаць.

## Якубка Грабоўскі



Малому Якубку Грабоўскаму з вёскі Засценкі, што каля Беластока, нядаўна споўніўся годзік. Але Якубка ўжо не толькі ходзіць, але і бегае даволі хутка. Толькі, здаецца, сядзіць, гуляе ў адным куточку, як раптам шмыгне ўмомант у другі, і не заўсёды лёгка яго знайсці. Як агонь Якубка.

Калі мама і тата Якубкі едуць на працу ў Беласток, хлопчыкам і яго старэйшай сястрычкай апякуецца 19-гадовы дзядзька Раман. Ён скончыў сваю школу і пакуль што не працуе. Дык дапамагае сваёй сястры выхоўваць дзяцей.

А бабуля Якубкі — Анна Стэльмашук — яшчэ працуе. Яна даглядае малога толькі тады, калі ідзе на другую змену. Вельмі любіць яе Якубка. Крычыць: „Баба, баба", а больш нічога ад яго і не пачуеш. Пэўна, калі Якубка падрасце, бабуля будзе яму чытаць казачкі з „Зоркі". Яна штотыдзень купляе ў Беластоку „Ніву", і ўся сям'я чытае нашу газету.

**Ада Чачуга**
**фота аўтара**

*Васіль Сухамлінскі*

## Ласкавы Вецер і халодны Вятрыска

У цёмным лесе, у глыбокім яры спалі два вятры. Ласкавы Вецер — хлопец з сінімі вачыма. А халодны Вятрыска — дзед з калючай барадой.

Прыйшла зіма. Сонейка не магло падняцца высока над зямлёй. Белыя снягі ўкуталі поле. Трывожна зашумелі вяршыні дрэў. Прачнуўся ў глыбокім яры халодны Вятрыска. Устаў, выйшаў з лесу. Застагнала завіруха. Ідзе па зямлі халодны Вятрыска, замярзаюць рэкі, гудзе завея.

Але вось паднялося сонейка вышэй над зямлёй. Забалела спіна ў халоднага Вятрыскі. Падаўся ён у цёмны лес, залез у глыбокі яр.

Прачнуўся ласкавы Вецер, выйшаў з лесу.

Засмяялася сонейка, пацяклі ручайкі, зацвілі кветкі, зашумелі травы.

*З украінскай пераклаў*
*ВАЛЕРЫ БАБЕЙ*

## ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ

Вучні II класа Падставовай школы ў Храбалах нарысавалі як яны правялі першы дзень вясны — 21 сакавіка. Усе свае рысункі вучні даслалі „Зорцы".
Ніжэй друкуецца карціна Кшыся Лесніка.



**Ад рэдакцыі:**
Каханыя другакласнікі, усе вашыя рысункі мне вельмі спадабаліся. Будуць яны ўпрыгожваць нашу рэдакцыю. Усе вы атрымаеце ад „Зоркі" маляванкі паводле беларускіх казак. А некаторыя вашы працы надрукуем у „Зорцы".

## МУЖЫК І МЯДЗВЕДЗЬ

*У Чыжах многія школьнікі любяць чытаць апавяданні. Але найбольш ім падабаюцца, як яны самі заявілі, казкі пра жывёл. І таму гэтую беларускую народную казку „Зорка" падабрала з думкай аб сваіх новых сябрах з Чыжоў.*

* * *

Жыў-быў дзед са сваёй бабай. Пасеялі яны рэпу. Не паспела рэпа даспець, як мядзведзь яе знюхаў. Заходзіць аднойчы стары ў поле і бачыць, што рэпа павырываная, параскіданая кругом. Вярнуўся ён дахаты і расказвае сваёй бабцы. А яна яму і гаворыць:

— Хто ж гэта будзе? Калі б людзі, то дахаты панеслі б. Пэўна мядзведзь занадзіўся. Пойдзем, дзед, пільнаваць злодзея.

Стары ўзяў сякеру і пайшоў на ўсю ноч пільнаваць злодзея. Лёг на мяжы і ляжыць. Прыходзіць мядзведзь і давай рваць рэпу — нагроб, нагроб, напхаў у лапы і лезе да мяжы.

Стары ўскочыў, кінуў у мядзведзя тапарам, а сам бягом дахаты. Мядзведзю ад гэтага лапу адсякло. Зароў і пайшоў на трох лапах у лес.

А дзед вярнуўся, узяў адсечаную лапу і прынёс яе дамоў.

— На, бабка, вары капусту.

Тая аблупіла лапу з шэрсці, варыць паставіла. Шэрсць у маток зляпіла, сама села на шкуры і пачала прасці. У тым часе мядзведзь дарабіў сабе лапу з ліпы і ідзе на вёску. Ідзе, ідзе, ліпавая нага прыпявае, ён сам паўтарае:

*На ліпавай назе,*
*На бярозавай дзеравянцы,*
*Па сёлах спяць,*
*Адна баба не спіць,*
*На маёй шкуры сядзіць,*
*Маю шэрсць прадзе,*
*Маё мяса варыць.*

Баба пачула гэта і гаворыць.

— Ідзі дзед, дзверы зачыні хутчэй.

А мядзведзь ужо ў сенцы ўвайшоў...

**З-ка**

# Найстарэйшы ў Белавежы

Роўна 150 гадоў назад у Белавежы збудаваны быў абшырны драўляны будынак, прызначаны для прыездаў начальніка Заходняга краю Расейскай імперыі. Ён зараз лічыцца найстарэйшай будынінай у ваколіцы і знаходзіцца ў Палацовым парку (другім белавежскім юбіляры, якому сёлета спаўняецца 100 гадоў), на беразе заходняга става.

Багатую і цікавую гісторыю мае згаданы аб'ект. Спярша трэба паясніць, што ён ніколі не выконваў ролі леснічоўкі, як гэта паўсюдна прадстаўляюць аўтары шматлікіх даведнікаў аб мястэчку і пушчы. Леснічоўка, а прынамсі з такім намерам быў пачаткова будаваны гэты дом, знаходзіцца побач. Яе будову паспешліва закончылі перад паляваннем цара Аляксандра II, якое адбывалася 6 і 7 кастрычніка 1860 г. У той жа „леснічоўцы" і затрымаўся імператар. Георгій Карцоў, аўтар першай манаграфіі Белавежскай пушчы, паясняе, што дом начальніка Заходняга краю па прычыне свайго „казарменнага стылю" не падыходзіў для наладжання ў ім хаця б кароткатэрміновага знаходжання цара. Ён быў разбудаваны (дабудавалі крыло з поўдня і паверх над цэласцю аб'екта), а таксама ўпрыгожаны рознымі архітэктурнымі аздобамі. З таго моманту дом начальніка пачаў называцца паляўнічым павільёнам. У ім затрымоўваліся вялікія рускія князі, якія час ад часу прыязджалі ў Белавежскую пушчу на паляванні. У той перыяд павільён быў найабшырнейшай будынінай у Белавежы. Толькі ў 1889 г. пачалася будова пышнага царскага палаца, які быў здадзены ў карыстанне ўлетку 1894 г.

У паляўнічым павільёне памясціўся музей памятак з паляванняў цароў і вялікіх князёў. Захоўваліся ў ім лапата, якой цар пасадзіў дрэўца ў Звярынцы, каштоўны кубак падораны цару прускім князем, памятная кніжка, у якой падпісваліся асобы, наведваючыя Белавежскую пушчу. У 1894 г. у музей быў перададзены альбом здымкаў з палявання цара Аляксандра III. Усе гэтыя экспанаты былі вывезены ў Расею ў жніўні 1915 г.

У 1889 г. павільён праходзіў агульны рамонт. Былі выкананы новыя коміны, унутраныя сцены, ганак з паўднёвага боку. Зменена была паўночная частка даху над усходнім крылом, забудаваны ўваходны ганак.

Падчас I сусветнай вайны ў будынку спярша ўладкаваўся этапны палявы шпіталь, потым памешчана тут афіцэрскае казіно.

Казіно, з тым што ўжо не афіцэрскае, а Дапрызыўной падрыхтоўкі леснікоў, функцыяніравала і ў міжваенны перыяд. Апрача таго ў будынку змяшчалася Турыстычнае бюро Секцыі Таварыства дзяржаўных ураднікаў, якое кіравала турыстычным рухам. Тут жа існаваў кіёск з памяткамі і выданнямі. Прадаўшчыца, якая валодала некалькімі мовамі, вяла заадно пункт турыстычнай інфармацыі. Сам будынак змяніў крыху свой выгляд, паколькі дабудавалі да яго крыло з захаду і ўставілі новыя вокны ў паўночнай частцы ўсходняга крыла.

Падчас II сусветнай вайны ў аб'екце ізноў функцыяніравала афіцэрскае казіно. Потым тут змяшчалася сталовая, затым бар, а наканец рэстаран „Турыстычна". На зломе саракавых і пяцідзесятых гадоў дабудаваны быў калідорчык, які спалучаў усходняе крыло з заходнім. У 1960 г. быў зроблены капітальны рамонт будынка і тады менавіта паявілася тэраса ад поўдня і захаду.

У 1986 г. калектыў архітэктараў пад кіраўніцтвам Казімежа Леха Васілеўскага апрацаваў праект мадэрнізацыі цэлага аб'екта і адаптацыі яго на Асяродак прыродазнаўчай адукацыі пры Белавежскім нацыянальным парку. Да таго, як у 1991 г. пачалася перабудова, у будынку пасяліўся пасля пажару мясцовы дзетсад. Таксама праз нейкі час знаходзілася ў ім бюро Паўночнападляшскага таварыства аховы птушак. У выніку перабудовы будынак страціў кухонную частку і „клямар" ад поўначы, які спалучаў заходняе і ўсходняе крылы. Ліквідавана была таксама тэраса. Пры нагодзе выявілася, што ўвесь будынак не меў фундамента. Сцены былі пастаўлены на некалькіх камянях, пакладзеных у вуглах, прычым у адным месцы знойдзена замест каменя млынавыя жорны.

Перабудова будынка закончылася ў 1994 г. Фінансавалася яна галоўным чынам з датацый Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі. Асяродак прыродазнаўчай адукацыі мае пачаць сваю працу яшчэ ў бягучым годзе.

**Пётр Байко**
**Графіка Леха З. Навацкага**



# Справы смешныя і справы грэшныя

Што найбольш цікавіць нармальнага чытача? Такое пытанне не дае спаць па начах і днях усім рэдактарам — і сур'ёзных газет ды тыднёвікаў, якім залежыць на як найлепшым інфармаванні чытача, як і тым, што мараць як найбольш нагрэбці грошай, карыстаючыся яго марамі і цягамі, свядомымі і несвядомымі. Калі цэны на ўсё давялі да таго, што чалавек можа купіць тое што можа, а не тое што хоча ці яму трэба, і чытач пачынае хістацца: ці купіць булачку дзецям, ці газету, якой тыя не наядуцца, з якой, дарэчы, замнога і не начытаецца, бо дзевяноста працэнтаў яе плошчы займае рэклама!

Нашаму чытачу часам хапае пару злотаў на суботне-нядзельнае, таўсцейшае, выданне газеты, каб меў чым заняцца ў выхадныя, каб жонка не чаплялася, што зноў нічога не робіць. Пачынае яе, вядома, чытаць па-арабску, справа налева, як і нашу „Ніву", ад апошняй старонкі. Там найчасцей ёсць гумар, менш ці больш солены, менш ці больш смешны, для малапісьменных нават з малюнкамі і здымкамі. Сядзіць наш Чытач, Пецька, скажам, у працертым крэсле, жуе свой хлеб надзённы, і смяецца шчарбатым ротам (казённыя пломбы ўсе павыпадалі, а на прыватныя грошай яшчэ не назбіраў, а калі зубкоў зусім не будзе, перастане існаваць праблема мяса ў яго дыеце...), паглядае то на цыцатую дзеўку на здымку, то на сваю Маньку ў зашмальцаваным халаціку, у бігудзі на рэдкім валоссі, чытае пра сексуальныя праблемы або дзівы і цуды натуры. То зноў — зірк! на тэлевізар, што заведзены іграць ад рання да рання — а там шчыра ўсміхаюцца паўголыя паненкі, што рэкламуюць зубную пасту ды пральныя парашкі. То зноў наш Пецька кіне вокам на рэкламныя старонкі ў сваёй газеце (тут яны займаюць больш трох чвэрцяў нумара). Прапануюць яму: „Пазвані Касі...", „Усё, пра што толькі марыш!", „Секс на месцы!", „Гарачая лінія", „Кіпучыя сексалеткі". Шукаюць маладых прыцягальных паненак, даюць ім закватараванне і працу ў бяспечных умовах... Праўда, Пецька шанцаў на такі падзаработак ужо не мае. Цьфу, чысты бульварнік з газеты зрабіўся! — кідае Пецька газету, бярэ журнал жонкі з вялізнай кучкі такіх жа. Штосьці ў стылі „Дамай быць", „Кабета і мужчына", „Усё пра каханне". Спаўзаюць Пецьку акуляры з пераносіцы аж на бараду: ой, не ведаў дасюль, што яго баба такая няшчасная! Ніколі не падумаў пра „ўступныя гульні", не біўся з Манькай падушкамі, не забаўляўся гадзінамі, каб яе распаліць (здавалася, і не трэба было, бо якраз жонка першая бралася за стомленага пасля працы Пецьку). Аж 99 працэнтаў баб прытвараюць аргазм! Што, можа яго Манька ў гэтым адным вылучаецца натурай?! Яна ж не горшая і не лепшая за іншых, ну, кабета, як кабета. Відна, так умела прытваралася, а ён не дагадзіў ёй ні крышачкі! Можа, запытацца проста, га?..

Выляцелі з Пецькавай галавы жарты з апошняй старонкі пра яхідную цёшчу, міліцыянера-асталопа, астылую ў магіле ўрэдную жонку і іншы „смех у санаторыі", а толькі чамусьці не выветрыўся дурны анекдот пра рагатага Моську! А Манька вунь колькі тых каляровых часопісаў накупіла, грошай не шкадавала! Дзецям ад ратоў паадымала! Дагадзіў ёй, значыць, рэдактар, паўплываў на свядомасць, падсвядомасць і несвядомасць! Начыталася! Дала рэдактару зарабіць! Начыталася, наглядзелася Манька і рэклам, і вунь якія белыя цяпер у Пецькавых кашулях каўнерыкі, якія белыя Маньчыны трусікі, колькі ледзь пачатых пачкаў парашкоў стаіць у ваннай! Выбірае Манька, мяркуе, што найлепшае, купляе ўсё новае...

— Манька, што за ідыёт даў жанчынам выбарчае права?! — закрычаў у бок кухні наш Чытач.

Паляцела адтуль на яго, начышчаная „ціфам", патэльня. Зусім як у смешных труках у даваенных камедыях! Але ж газета — не панцыр, ой, не...

**Вандал Арлянскі**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка VI**

Прыведзеныя ў папярэдніх адрэзках выказванні жыхара Бандароў Піліпа Карэткі маюць істотнае значэнне з некалькіх прынцыповых прычын.

Па-першае, у сваіх прызнаннях Піліп Карэтка ахарактарызаваў з пункту гледжання маладога радавога салдата вялікую падзею ў гісторыі Беларусі — Першы агульнабеларускі з'езд, які быў праведзены ў Мінску ў другой палове снежня 1917 года. З'езд гэты, як вядома, быў дазволены рэвалюцыйнымі ўладамі, на чале якіх сталі Карл Ландар і Аляксандр Мяснікоў і тымі ж уладамі пасля двух дзён быў жорстка разагнаны. Піліп Карэтка якраз і быў тым салдатам, які пачаткова з'езд ахоўваў, а пасля яго разганяў. Трэба сказаць, што расказ Піліпа Карэткі ўражвае сваім наіўнаватым аўтэнтызмам і непадкупнай шчырасцю.

Па-другое, рэляцыі Піліпа Карэткі выходзяць па-за рамкі Агульнабеларускага з'езду і датычаць той праблемы, якая мяне цікавіла ў найбольшай ступені, а менавіта фармавання нацыянальных пачуццяў сярод беларусаў. І якраз у гэтым аспекце выказванні Піліпа Карэткі цікавыя і каштоўныя. Мой субяседнік не стараўся мне прыпадабацца, не стараўся рысавацца, упрыгожваць сваю постаць, паляпшаць свой вобраз ці ідэалізаваць сябе. З таго, што апавядаў, даволі выразна вырысоўвалася павольная духоўная эвалюцыя вясковага хлопца, які пакідаў у 1915 годзе сваю вёску як праваслаўны рускі, а ў ходзе першай сусветнай вайны і асабліва ў перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая максімальна разгойдала чалавечыя пачуцці, страсці і надзеі, павольна даспяваў і пераўтвараўся, калі не ў поўнасцю свядомага беларускага барацьбіта, то напэўна ў чалавека, які ўсвядоміў сабе тое, што ён належыць да іншага, чым рускі, народа. Гэтым „новым" народам станавіўся для Піліпа Карэткі беларускі народ. Ва ўсіх запісаных і незапісаных мною прызнаннях майго субяседніка адназначна выступала яго сімпатыя для тых людзей, якія ў перыяд рэвалюцыйнага перавароту ў Рускай імперыі не апусцілі рук, а наадварот, пастанавілі дзейнічаць у карысць уласнай беларускай нацыі. Піліп Карэтка не ідэалізуе гэтых людзей, аднак выразна іх духоўна падтрымоўвае і з імі салідарызуецца. Зразумела, займае ён тыповую беларускую пазіцыю — неадназначную і непаслядоўную.

Істотная каштоўнасць прызнанняў Піліпа Карэткі заключаецца ў тых іх фрагментах, у якіх гаворыць ён пра яфрэйтара — дэлегата Першага агульнабеларускага з'езда. Перакананне яфрэйтара аб тым, што разгон з'езда быў учынены насуперак волі Леніна і што Ленін пакарае пагромшчыкаў, калі толькі даведаецца аб іх антыбеларускім злачынстве, заключае ў сабе тыповую беларускую наіўнасць, якая сваімі карэннямі сягала царскіх часоў. У перыяд царызму беларускія сяляне былі перакананы, што жывецца ім дрэнна таму, што царскія чыноўнікі скажаюць высакародную царскую волю і дабрату, і што калі толькі цар даведаецца аб народных крыўдах, дык пакарае чыноўнікаў і тады надыдзе вялікі дабрабыт і шчасце. Рэлікты такога мыслення несумненна характарызуюць і яфрэйтара, які не разумее, што антыбеларускія тэндэнцыі ішлі ад самога Леніна, Сталіна, Троцкага — вядучых галавароў Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія імкнучыся да стварэння СССР выразна прагнулі стварыць новую імперыяльную рускую дзяржаву.

Трэба сказаць, што просты селянін Піліп Карэтка многае бачыў і разумеў з гэтай адвечнай рускай тэндэнцыі. З выказванняў майго субяседніка вынікала, што ён не верыў у магчымасць узнікнення незалежнай Беларусі і што галоўную пагрозу для гэтай ідэі бачыў у варожасці Расіі і Польшчы і ў абыякавасці Захаду. Беручы пад увагу ўзнікненне незалежнай Беларусі ў 1991 годзе, магло б здавацца, што Піліп Карэтка памыляўся. Але пакуль што ў гэтай справе няма яснасці. Калі ўзяць пад увагу тыя страшэнныя калоды, якія кідаюць пад ногі маладой беларускай дзяржаве карэнныя расейцы і беларускія рэнегаты на чале з сённяшнім прэзідэнтам, дык трэба сказаць, што боязь Піліпа Карэткі была поўнасцю матываваная і ў нейкай ступені прарочая.

Так ці інакш, расказы Піліпа Карэткі з'яўляюцца для мяне асабіста доказам таго, што беларусы гэта не толькі рабы, але і людзі са здольнасцю да аб'ектыўнага назіральнітцтва, рацыянальных разважанняў і ўмеранага крытыцызму і ўласцівых вывадаў.

**Алесь Барскі**

# Канец Чатырадзесятніцы і Вялікі Тыдзень

*ТРАПАР: Запэўняючы, што будзе агульнае ўваскрэсенне, Ты, Хрысце Божа, перад Сваімі пакутамі ўваскрасіў з мёртвых Лазара. Дзеля гэтага і мы, як дзеці, несучы знакі перамогі, усклікаем да Цябе, Пераможца смерці: ратуй нас, Які жывеш у нябёсах! Дабраслаўлёны той, хто ідзе на славу Госпаду.*

У пятніцу перад днём уваскрэсення Лазара паводле устава канчаецца Святая Чатырадзесятніца. Чарговыя два дні, асаблівыя ў перыядзе Вялікага Посту, бо ўводзяць нас у Страсную Сядміцу. Яны нагадваюць аб тым, што непасрэдна пасля іх пачынаецца Вялікі Тыдзень, у якім успамінаем апошнія дні зямнога жыцця Хрыста.

Цуд уваскрэсення ў Віфаніі Лазара, брата Марфы і Марыі (здарыўся ён на шэсць дзён перад яўрэйскай Пасхай),



*Распяцце. Ікона напісаная ў 1546 г. Феафанам Крыцкім.*

Царква ўслаўляе, як доказ Божай сілы Хрыста, прадказанне Яго Уваскрэсення і паўсюднага ўваскрэсення памёрлых. У гэты дзень Сінедрыён, па ўгавору Каіафы, вырашыў злавіць Збавіцеля, калі толькі тое стане магчымым. Гэты цуд, дзякуючы якому многія яўрэі паверылі ў Хрыста як Месію, быў непасрэднай прычынай вынясення Госпаду смяротнага прыгавору.

На другі дзень Хрыстос падаўся ў Іерусалім, каб дабравольна прыняць пакуты дзеля збавення людзей ад граху і смерці. А вось словы кандака гэтага святочнага дня: „На небе на пасадзе, а на зямлі на асляняці, Ты, Хрысце Божа, прапеў слаўленне анёлаў і песню дзяцей, што ўсклікаюць да Цябе: добраслаўлёны Ты, што ідзеш Адама вярнуць". Людзі вітаюць яго словамі: „Асанна, Сын Давідаў!" Адны сустракаюць Яго як прарока, іншыя — як Месію. Трыумфальны ўваход Хрыста ў Іерусалім абазначаў Яго каралеўскае ўслаўленне і паказваў, што Ён добраахвотна ідзе на смерць. Гэтае двунадзесятае свята, у адрозненне ад іншых вялікіх свят, не мае ні перадсвяточных, ні паслясвяточных дзён, паколькі знаходзіцца яно ў перыядзе посту (у гэты дзень дазваляецца есці толькі рыбу).

Уваход Хрыста ў Іерусалім прадвяшчалі ўжо старазапаветныя прароцтвы: „Радуйся, дочка Сіёна, святкуй, дочка Іерусаліма: вось Цар твой ідзе да цябе, справядлівы і збавіцельны, лагодны, едзе на асліцы і асляняці, жарабяці асліцы" (Захар, 9:9). На гэтае свята вярталіся ў свае манастыры манахі, якія ўвесь перыяд Святой Чатырадзесятніцы праводзілі ў самоце ў гарах, пустынях і іншых адасобленых месцах. Апошнія дні перад Пасхай праводзілі яны на супольнай малітве, успамінаючы пакуты і смерць Госпада.

Страсная Сядміца нясе магчымасць папраўіцца ўсім тым, якія на працягу прайшоўшых тыдняў не пасціліся і не шкадавалі за свае грахі. Божая міласэрнасць кожнаму грэшніку дае магчымасць прынесці шчырае пакаянне і атрымаць адпушчэнне грахоў і збавенне. Той, хто не будзе толькі пасіўным наглядальнікам Госпадніх пакутаў, але будзе імкнуцца ўдзельнічаць у іх, каючыся адначасна ў сваіх грахах і абяцаючы папраўу, будзе ўзнагароджаны жыватворнай сілай, выцякаючай з Уваскрэсення Хрыстова.

У сераду Вялікага Тыдня — вечарам — канчаюцца набажэнствы вялікапоснага характару. У царкоўных песнях змаўкаюць водгукі плачу грэшнай душы, а пачынаецца плач над зняважай, здзекамі і пакутамі Збавіцеля на Крыжы. У гэты дзень канчаецца чытанне малітвы св. Яфрэма Сірына.

У Вялікі Чацвер успамінаем устанаўленне Хрыстом Таінства Прычасця, а вечарам чытаем 12 фрагментаў Евангелля аб пакутах Сына Божага.

У Вялікую Пятніцу — найбольш посны дзень года — успамінаем смерць Госпада на Крыжы. „Искупил ны еси от клятвы законныя честною Твоею кровию, на кресте пригвоздився, и копием прободся, бессмертие источил еси человеком, Спасе наш, слава Тебе". Ідучы са Святой Плашчаніцай, прымаем удзел у прынясенні Яго ў магілу.

У Вялікую Суботу ўспамінаем знаходжанне цела Збавіцеля ў магіле, сашэсце душы ў пекла, перамогу над смерцю і паўторнае адкрыццё брамы ў Рай. У набажэнствах у Вялікую Суботу жаль і смутак па спачылым у магіле Хрысце пераплятаюцца з радасцю, што Сваёй смерцю адкрыў Ён шлях да Збавення, а Яго слаўнае Уваскрэсенне знаходзіцца непасрэдна перад намі.

С. Н.

# ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА

Вялікая Пятніца для ўсіх хрысціян — гэта выключны дзень. Яшчэ напярэдадні — у Вялікі Чацвер, вернікі прасачылі падчас чытання 12 Евангелляў пакуты і смерць Хрыстову, а ў Пятніцу збіраюцца ля Ягонай сімвалічнай труны, ля плашчаніцы. Неба і зямля прыпадаюць да памёршага Збавіцеля. У гэтай урачыстай цішыні, у задуменным маўчанні, у светлай журботнасці сузірае, плача да мoліцца і наша бедная душа. Людзі аднойчы забілі Бога, што прыйшоў да іх і надалей Яго забіваюць. Чуллівую, неакамянелую душу пранікнуць павінна ў Вялікую Пятніцу пачуццё віны за нявер'е, за падзенні, за богаадрачэнні...

„Хай маўчыць усякае цела чалавечае і хай стаіць з бояззю і дрыжэннем", — заклікае Царква. Неўяўляльная ступень любові дасягнула сваёй мяжы: Хрыстос спачыў нежывы. Ён прыйшоў збавіць сваё тварэнне, вярнуць да жыцця ўпаўшае, паміраючае зерне. Людзі страцілі сувязь з Богам, блукаліся ў духоўнай цемры і памножвалі Адамаў грэх. Бог бачыў бездапаможнасць чалавека. Праз стагоддзі Старога Запавету струменнямі лілася кроў ахвярных звяроў, праваобразна прадказваючы Хрыстовую Кроў. Аднойчы ён прызямліўся, каб абвясціць, што Бог любіць нас і рупіцца пра нас. Ён апавясціў Божую ласку, міласэрнасць і спагаду. Прыйшоў да сваіх, аднак свае не прынялі Яго. Сваімі рукамі нарыхтавалі Яму смерць тыя, якіх узлюбіў. Цень смерці спадарожнічаў Хрысту праз усе гады зямнога жыцця. Ад нараджэння да ўкрыжавання Яго акружала нянавісць, незразуменне і варожасць маладушных і жорсткіх людзей, якія не „ведалі, што робяць". Прыбліжаўся да Крыжа з годнасцю і вернасцю Айцу Нябеснаму. Легіёны анёлаў маглі ў любы час абараніць Яго, але Ён застаўся безабаронны, не супраціўіўся смерці. Як прадказвала прароцтва — „бы авечка паведзены быў на зарэз і бы нявіннае ягня маўклівае перад стрыгучымі, так Ён не адчыніў вуснаў сваіх". (Ісаія, 53: 7). Айцец праслаў і Сын пайшоў! Перад гэтай тайнай стрaчвае сілу чалавечы розум. Яна даступная толькі веры.

Хрыстос дасягнуў мэты сваёй місіі. Ягоны скон і кроў замацавалі і пацвердзілі словы: „Я праславіў Цябе, Ойча, на зямлі... справу, якую Ты даручыў мне — выканаў... Явіў імя Тваё людзям. Цяпер Ты, Ойча, праславі мяне славаю, якую я меў у Цябе да стварэння свету".

Вось перад гэтай тайнай стаім мы ў Вялікую Пятніцу. У дзень маўчання і роздуму ўсвядомім сабе свой доўг перад Богам: за ахвяру выкуплення, за цялеснае і духоўнае жыццё, за ўсё ўчыненае намі зло і занядбанае дабро. Хрыстос у труне — дакор нашаму сумленню. Хай замоўкнуць ля плашчаніцы нашы надзённыя клопаты, нараканне нашых мітуслівых сэрцаў. Неймаверна вялікай цаною, побач якой мы часта гэтак абыякава праходзім, нам ахвяроўваецца сёння галоўнае ў жыцці.

а. Канстанцін Бандарук

# Вербная Нядзеля

*(Іаан. 12, 1—18)*

У гэтую нядзелю, тыдзень перад Вялікаднем, прыпадае вялікае Свята „Уваходу Госпадняга ў Іерусалім". Заканчваўся Вялікі Пост і вось апошні перадвелікодны тыдзень званы „вялікім", прысвечаны ўспаміну апошніх дзён зямнога жыцця Хрыста, Яго пакутам, смерці і пахаванню. У „вялікі" панядзелак успамінаецца старазапаветны патрыярх Язэп, пакуты якога былі праваобразам пакут Хрыста. У аўторак Царква ўспамінае асуджэнне Ісусам крывадушніцтва кніжнікаў і фарысеяў; у сераду — намер Іуды прадаць Настаўніка; у чацвер успамінаецца „Тайная вячэра" і выдача Ісуса уладам. У „вялікую" пятніцу Царква адзначае крыжовыя пакуты Хрыста і творыць абрад вынасу „Плашчаніцы" і затым у суботу вернікі з урачыстай набожнасцю чакаюць уваскрашэння Хрыстова.

У гэтую нядзелю адзначаецца „Уваход Госпадні ў Іерусалім" або гэтак званую „Вербную Нядзелю". Падчас вячэрняй багаслужбы ў суботу вернікі прыходзяць у храмы з упрыгожанымі веткамі; на Усходзе з веткамі пальмаў, лаўру і вясеннімі кветкамі, а ў нас — з заселянелымі вербамі, прадвесніцамі надыходу вясны. Ад звычаю асвячэння іх у гэты дзень Свята і называецца „Вербніцай". Асвячонай вярбе, асабліва ў сялянскім побыце, некалі надавалася магічнае значэнне. У гэты дзень галінкамі вярбы сцябалі адзін аднаго кажучы „вярба б'е — не заб'е; за тыдзень Вялікдзень". Вербамі выганялі на першы выпас жывёлу; лічылася, што сама іх прысутнасць у хаце ахоўвала ад розных хвароб. Асвячоныя вербныя галінкі клалі таксама на магілы сваіх блізкіх.

Тым не менш акрамя абрадавага боку „Уваход Госпадні ў Іерусалім" — гістарычная падзея з глыбокім рэлігійным зместам. Свой урачысты, царскі ўезд у Іерусалім Хрыстос адбыў перад сваімі пакутамі і смерцю. Дагэтуль Ён утойваў Сваю боскую веліч і толькі гэтым разам не супраціўіўся азнакам пашаны ад народу. „Асанна Сыну Давідаваму! Дабраслоўлены, Які прыходзіць у Імя Госпадняе", — раздаваліся радасныя воклічы людзей. Пяцьсот гадоў раней гэтую падзею прадказаў прарок Захарыя: „Весяліся дачка Сіёнская: вось цар твой прыходзіць да цябе справядлівы і збаўляючы, седзячы на асляняці" (Зах., 9:9). Сабраны народ быў перакананы, што прыйшоў доўгачаканы час вызвалення, што будуць выгнаныя рымскія акупанты і ўсталюецца народная ўлада. Людзі рассцілалі на дарозе кілімы з вопратак і пальмавых ветак, аднак мэта ўрачыстага ўваходу ў Іерусалім была іншая. У часе, калі ў сусветным цэнтры яўрэйства збіраліся пілігрымы і мясцовыя, каб святкаваць Пасху, Хрыстос пажадаў выступіць у ролі Адкупіцеля, звярнуць увагу на ахвяру, якая мела ўвянчаць Ягоную місію. Перад тым, як народ меў традыцыйна спажываць пасхальнага агнца, Ён, Агнец Божы, добраахвотна прыносіў ахвяру з Сябе. Трэба было, каб увага людзей накіравалася на Яго і засяродзілася на Ягонай ахвяры. Акружаны натоўпам, аднак самотны, Ён набліжаўся не да трона, а да Крыжа...

Паводле тэалогіі, без гэтай падзеі, якая напамінае Праабражэнне на гары Фавор, не адкрылася б у свеце паўната богаўвасаблення. Царская годнасць заўсёды ўтойваная ў Настаўніку, які „не меў дзе галавы схіліць", павінна была выявіцца на зямлі дзеля пасведчання праўды. Услаўленне Хрыста як Цара патрэбнае было таксама зняверанным і расчараваным вучням. Гэтая думка выказана ў царкоўнай песні, што „калі Хрыста ўбачаць крыжаванага, каб зразумелі добраахвотнасць пакутаў". Дзеля гэтага і дзеля пасведчання праўды адбыўся ўрачысты ўваход Хрыста ў Іерусалім як Нябеснага Цара, што прыносіць прымірэнне.

У багаслужбах Вялікага Тыдня, перад вернікамі зноў разыграецца апагей збавіцельнай місіі Хрыстовай. Пажадана перажыць гэтыя дні ў настроі павагі і сцішэння. Хай будуць гэта дні паглыбленага роздуму і ўнутранага саўдзельніцтва ў Хрыстовых Пакутах, каб, перажыўшы смутак, паўней перажыць і радасць Уваскрэсення.

а. Канстанцін Бандарук



*Царква св. Кузьмы і Дзям'яна ў Рыбалах.*

**Графіка Барыслава Рудкоўскага**

# На суд гісторыі

Было гэта пасля смерці каўказскага горца, ката народаў. Усюды бушавала меліярацыя: раўлі гусенічныя трактары, бульдозеры і экскаватары. У коўш экскватара падаюць маладыя дрэўцы. Бульдозеры валяць сосны і бярозы, здзіраюць кару з іх. Жудаснае відовішча. Адчуваю на сабе боль мучанай расліннасці. За машынамі астаюцца адно кучы чорнай зямлі і цёмныя катлаваны. Так асушвалі балоты, выпрастоўвалі рэчышчы — знішчалі першабытны выгляд прыроды, тапаграфію тэрыторыі.

Гледзячы на гэтыя здзекі над прыродай, я напісаў пратэст у прэзідыум Ваяводскай рады ў Беластоку. Падкрэсліў у ім, што балоты на зямлі захоўваюць запасы вільгаці, рэгулююць кліматычныя працэсы, стабілізуюць узровень грунтавой вады.

Паводле геадэзічнай навукі, часткі зямной кары падвяргаюцца векавым эпейрагенным хістальным рухам. Гэты працэс адбываецца і ў нас: мацярык у Беларусі і на Беласточчыне падымаецца. А ў Беларусі масава знішчаюць велізарныя прасторы балот; будучыць там саўгасы і лічаць, што яны ў максімальнай ступепні выкарыстаюць прыроду для дабра чалавека. Мы не можам ехаць у Беларусь, ды і беларусы не маюць права ехаць да нас: усе правы адабрала ў народаў ідэалогія напісанага ў 1848 г. камуністычнага „маніфеста". Аднак для паветраных плыняў і геадэзічных рухаў няма граніц, устаноўленых дыктатурай пралетарыяту, дзе ніхто апрача савецкіх чэкістаў, не мае права на свабоднае перамяшчэнне.

Высушванне балот на Беларусі будзе ўзмацняць кантынентальнасць клімату на Беласточчыне і праз 35—40 гадоў (у 1990—95 г.г.) прывядзе да экалагічнай катастрофы. Будзем чакаць пагоды ад далёкага мора: або безупынных дажджоў, або жудаснай спякоты, ад якой усё павыгарае. Паменшыцца запас вады і не стане яе ў калодзежах. Таму ўсіх меліяратараў Беласточчыны і Беларусі лічу невукамі. Стаўлю свой голас пратэсту — марны лямант у пустыні — у абарону балот і прыродных умоў у далінах рэчак: за жыццё ў будучыні.

Дзеля разгляду гэтай маёй дзёрзкасці была створана камісія. У Бельск прыехаў аж прафесар па меліярацыі ды іншыя спецыялісты. Паехаў я з імі ў даліну рэчак Арлянкі і Локніцы. У Грыневічах і Трашчотках — перасушана. Аднак старшыня калгаса ў Храбалах, вусаты Х., на ўсе лады расхвальваў меліяратараў. Камісія прызнала, што віноўнікам засухі з'яўляліся адкрытыя застаўкі меліярацыйных абсталяванняў. Мне слушнасці ніхто не прызнаў, а за знявагу вучоных і меліяратараў справа падлягае асобаму разгляду.

Мінуў нейкі час і я атрымаў выклік: калегія ваяводскага прэзідыума будзе разглядаць маю, дэпутата Ваяводскай рады, справу за знявагу меліяратараў — вучоных і праектантаў. На пасяджэнні прысутнічаў поўны склад прэзідыума і пакліканыя спецыялісты па меліярацыі. Усе сядзелі, толькі старшыня Прэзідыума Шч. хадзіў за сталом, быццам нейкая хвароба не даваляла яму сесці. Старшыня Шч. зачытаў маё пісьмо. Прафесар С. падняўся з месца і сказаў:

— Растлумачце нам свой пратэст, у якім вы адважыліся зняважыць усё і ўсіх.

Я ўстаў і пачаў па тэзісах гаварыць:

— У сваім пісьме я падрабязна затрымаўся на прыродзе балот, на цячэнні рэчнага струменя, на геамарфалогіі берага і расліннасці далін. Асабліва настойваю на абароне тапаграфіі гідраграфічнай сеткі і дрэў, што растуць на берагах рэчак. Выпростванне рэчышча павялічвае хуткасць цячэння і выклікае эрозію дна. Люстра вады зніжаецца. Высушваецца не толькі даліна, але і ўсе навакольныя сельскагаспадарчыя ўгоддзі і лясы. А каб зберагчы ўзровень вады, трэба пабудаваць на рэчышчах запруды і дамбы. Гэта вельмі дорага і таму на практыцы немагчыма. Наступіць час, калі ўсё будзе гарэць ад праменняў сонца, а выпарэння не будзе. Калі меліяратары знішчаць усе балоты на Зямлі, усе запасы вады, чакае нас спякота і бязвоблачнае лета. Агонь усё стварыў, агонь усё вынішчыць. Такі закон прыроды...

— А вы, таварыш дэпутат, нам тут не філасофствуйце, — заўважыў старшыня Шч. — Вы выступілі супраць палітыкі партыі на вёсцы. Ваша крытыка кранула перадавую савецкую навуку, заснаваную на ідэалогіі М. і Л. А гэтыя класікі даказалі, што клімат у Месапатаміі змяніўся з той прычыны, што козы павыгрызалі расліннасць. Вы супраць аб'ектыўнага разумення прыроды ды яшчэ зневажаеце філасофію партыі.

Далей узяў слова інж. П.

— Так, так! Пісьмо дэпутата Рудкоўскага беспадстаўнае і накіраванае яно на шкоду сельскай гаспадаркі, супраць палітыкі партыі на вёсцы, супраць павялічвання кармавой базы.

Зрабілася мне маркотна — справу накіроўваюць у бок палітыкі, ці не рыхтуюць мне нейкіх Салаўкоў або Калымы. Трэба моцна абараняцца.

— Я на лугах даліны ракі Супрасль збіраю расліны, — сказаў прафесар С.

— Квітнеючыя, захапляюся імі. Поўны рукзак прыношу. Вызначаем іх від. Навошта тут пісаць такое? А самое абазванне нас невукамі — што значыць? Га?!

Іншых крыкуноў няма патрэбы цытаваць; уся іх крытыка была накіравана на мае адмоўныя адносіны да багоў ідэалогіі, а гэта абазначала, што я лажу і квічу.

— Што можаце сказаць на сваё апраўданне? — спытаў член прэзідыума Ваяводскай рады З., юрыст па адукацыі.

— Перш за ўсё, — адказаў я, — я катэгарычна пратэстую супраць змешвання навукі з палітыкай. Тое, што напісалі М. і Э. сто гадоў таму, сёння не мае пацвярджэння. Козы ў Месапатаміі даўно загінулі, капіталістычных мануфактураў няма таксама. Дзеля гэтага вы тут мяне не шахуйце бязглуздзіцамі М. і Э. — пакіньце іх тым, што за іх грошы атрымоўваюць: няхай чытаюць дзень і ноч, няхай моляцца да іх партрэтаў, сёння да трох. А я хачу, каб вы мне тут растлумачылі, чаму калі М., Э. і Л. былі такімі разумнымі — дактарамі ўсіх навук, а ўся рэшта дурнямі, за што вам далі навуковыя званні. Мы ўсе павінны быць толькі дурнымі невукамі. Адно толькі, што нам дазволена — пасці месапатамскіх коз з палкай у руцэ замест алоўка. Мы, згодна з навукай гэтых дэманаў касматых, не павінны мець сваіх поглядаў: уся мудрасць змяшчаецца ў іх пісаніне, ілюзіях аб дабрадзействе атамнай энергіі. Шмат напісана ў гэтых -ізмах, ды нічога добрага. Я вас пытаюся, адкуль будзе ісці выпарэнне, калі балота знішчана? Дайце мне адказ! Вузкія рэчышчы рэк не ў змозе замяніць шматлікіх прастораў балот. Паехаць бы вам у Паўлінова і пагладзець, якую прыроду нішчыць там меліярацыя. Дзе дзелася высокая расліннасць: зараслі, вольхі, чарот? Куды адляцелі чарады качак з неабсяжнай гладзі люстра вады? Усё знішчана ў імя месапатамскіх коз і мануфактур. Усё на Зямлі спаліць Сонца, усё міне як сон: вам прыемны, а мне — кашмарны. Усё праміне апрача праўды — яна вечная. Вы сёння мяне хочаце пакараць як працўніка. Але я не працўнік, я — абаронца. Не трэба забываць, што ў перспектыве часу суд гісторыі яшчэ здзейсніцца. Няхай мяне і ворагаў прыроды судзіць час, наступныя пакаленні. Хто будзе мець рацыю: я, ці вы ўсе, супольна ўзятыя... Я на ёту не адступлю ад сваіх слоў. Я падрыхтаваўся на Салаўкі, а нават да поўнага нябыту: вы сёння ўсемагутныя — можаце зрабіць са мною што хочаце. Ды неабходна памятаць, што суд гісторыі над меліяратарамі немінучы.

— Ну, таварышы, — сказаў старшыня Шч., — бачым, што маем перад сабою нікчэмную істоту. Таварыш Рудкоўскі прабуе нас вучыць, пахіснуць нашу ідэалагічную стойкасць. Ён з'яўляецца дэпутатам Ваяводскай рады і мае імунітэтную ахову і я, як старшыня, пытаю вас, што мы дамо яму за гэтую яго нахабнасць і дзёрзкасць.

Устаў З., член прэзідыума Ваяводскай рады:

— Таварышы, я ўважліва слухаў. Усё ўзважыў: за і супраць. Вы, таварышы меліяратары, ні ў чым не абвяргі тэзісы дэпутата Рудкоўскага аб прыродзе балот, рэчак і катастрофе ў будучыні. Ніхто яго палажэнняў навукова не абвяргнуў — шмат выступаўшых намагаліся павярнуць дыскусію ў бок палітыкі. Слова „невукі", якое прымяніў аўтар пісьма, я тлумачу тым, што ён страшэнна хваліецца за захаванне прыроды, за жыццё ў будучыні, за зберажэнне вады і клімату на Зямлі, а не паніжэннем годнасці меліяратараў. А ведаеце, што ў так усхваляваным стане чалавек можа сказаць яшчэ горшае. Яго душа пакутуе за нас усіх, за будучыню народа, таму я не бачу ў яго віны ў зневажанні нас. Я прапаную, таварышы, перагледзець гэтую справу за сорак гадоў. Сёння супраць яго нічога не даказана.

І я сёння здаюся на суд часу і гісторыі.

**Барыслаў Рудкоўскі**

# ЭМОЦЫІ І НЕРВЫ

29 студзеня 1995 года (нядзеля), не дачакаўшыся канца тэлепраграмы, лёг я ў пасцель раней чым заўсёды, у 23 гадзіны. Быў змучаны, бо дзень прайшоў вельмі эмацыянальна. Найперш слухаў перадачу на ўкраінскай мове, якую падрыхтавау пра мяне Юры Місяюк з Беластоцкага радыёвяшчання. Я вельмі эмацыянальна гэта ўспрымаў, бо ведаў, што заўсёды хтосьці знойдзецца, хто паставіць мне нейкі закід. Вядома, у інтэрв'ю чалавек выказвае свае думкі, якія не ўсім дагаджаюць, тым больш, што я і не думаю ўсім дагадзіць, бо выказваў прытым не заўсёды прэцызійна свае погляды пра нашыя, беларуска-ўкраінскія справы. Пасля, калі толькі закончылася перадача пра мяне, у беларускай праграме выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі з трывожным і сумным заклікам да беластачан падпісваць пратэст да ўладаў горада Беластока супраць спробы пазбаўлення беларусаў будынка Галоўнага праўлення.

Гэты заклік павысіў маю эмацыянальнасць, а гэта ўжо пагроза для майго хворага сэрца. Пачала балець галава, стала суха ў роце і запякло ў грудзях. Крыху злякаўся, што зноў трэба будзе выклікаць хуткую дапамогу.

Прыняўшы эукардзін, пайшоў я ў сабор св. Мікалая, каб паставіць свой подпіс пад пратэстам — адзіным ратункам перад немінучай смерцю беларускасці сярод найболш дэмакратычнага народа Еўропы. Там быў натоўп народу, усе падыходзілі да століка, каб распісацца пад пратэстам. Калі я выходзіў з царкоўнае плошчы, падышоў да мяне (людзі ведаюць, аказваецца, свах пісьменнікаў) прыгожы мужчына і, прывітаўшыся, сказаў, што ён з жонкай слухаў радыёперадачу пра мяне і гутарку са мною, ды незгодны з маім выказваннем, што „жывем ў Польшчы". Мы жывем на „сваёй" зямлі, — заявіў ён.

Яшчэ крышку пабедавалі мы з Янкам Сычэўскім на наш лёс і ён пайшоў сваёй дарогай сумны, а я не ведаў куды падзецца ці пачаў хадзіць па горадзе, каб супакоіцца. Але замест гэтага, пачаў яшчэ больш хвалявацца, бо ўсё больш фактаў падымаючых ціск крыві залазіла ў галаву. Падумаў сабе: чаму палякі патрапяць змагацца за сваё, а кагосьці ў такой самай сітуацыі не хочуць зразумець? Так ёсць на ўзроўні гміны, ваяводства і краіны; усюды толькі нараканні на іншых... У гэты момант прыгадаў я і пра выступленне намесніка маршалка Сейма Рэчы Паспалітай Аляксандра Малахоўскага ад 18 лістапада 1994 года, калі ён заклікаў дэпутатаў Сейма, каб супрацоўнікаў бяспекі, вайсковай інфармацыі і пракуратуры Польскай Народнай Рэспублікі прызнаць злачынцамі. Каб пераканаць дэпутатаў у злачынствах бяспекі, ён крыкнуў: „Людзі, не забывайце крык харунжага, які енчаў ад катаванняў бяспекі ў падвале..." А ніхто і слаўцом не ўспомніць, як крычалі і стагналі Богу душою не вінаватыя жыхары вёсак паўднёва-усходняй Беласточчыны — Заняў, Залешанаў, Шпакоў, Вулькі, Лозіцаў — якіх стралялі, білі і жыўцом палілі ў іхніх дамах, часам разам з жанчынамі і дзецьмі. Сярод тых злачынцаў мог быць і гэты харунжы, пра якога гаварыў маршалак.

Калі я пачуў такую прамову важнага палітыка і ягоны заклік каго прызнаць злачынцам, тут жа сеў за машынку і надрукаваў кароткае пісьмо маршалку Сейма, да якога прылажыў спісак „найбольш актыўных агентаў бяспекі", аб якіх усё толькі і гаворыцца, што „прадавалі палякаў бяспецы і бадавалі ў Польшчы камунізм". Былі сярод іх некалькігадовыя дзеткі і старэчы расстраляныя падполлем „за супрацоўніцтва з бяспекай".

Вось гэта ўсё мяне так мучыла, што я ізноў увесь спацелы абсунуўся на падлогу ў час вячэрніх „Wiadomości". Дапоўз да нітрагліцэрына і нанава неяк ачуняў.

У пасцелі пачаў чытаць кніжку Сакрата Яновіча (ужо паўторна) „Беларусь, Беларусь". Яна таксама напісана ў эмацыянальным стылі, але калі я чытаю яе, мне пачынае яшчэ больш хацецца жыць. Наш дарагі Край ў адным сказе ўмее закрануць розныя справы і ўсе яны будуць састаўляць лагічную цэласнасць. Прытым у ягонай паэтычнай прозе кожны чытач знойдзе для сябе бальзам на стомленасць і нават хваробу. Чытаючы гэтую, на мой погляд, вельмі важную кніжку, я прыйшоў у сябе і вось на другі дзень усё гэта напісаў. Няхай ніхто не сумняваецца, што мае тут выказванні перастануць быць актуальнымі. Будуць яны надзённымі, бо аб беларусах ніхто не клапоціцца. Наадварот, можа здарыцца, што яны не будуць мець сваёй арганізацыі, вось што мяне баліць і чаго я баюся.

**Васіль Петручук**

## ПАРНАСік
Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### Грошы

Многа грошай — добрая рэч!
Кожны хоча больш іх мець.
Шчасця не даюць, жыць без іх цяжка,
Без іх не ступіш і аднаго кроку.
Усё за іх купіш апрача любві,
Здароўя, адвагі і вернасці сябра.
Грошы людзей псуюць, характар
руйнуюць.
Аднак грошы — добрая рэч!

### Птушкі і мы

Як птушкі будуем свае гнёзды.
Як птушкі ляцім у лепшыя краі.
Птушкі вясной заўсёды прылятаюць.
Нашы суродзічы ў багатым замежжы
Астаюцца і аб сваім краі забываюць.

### Прырода і мы

У прыродзе ўсё ідзе кругаваротам:
Вясна, лета, восень, зіма.
У чалавека адзін віток жыцця:
Праходзіць дзяцінства, маладосць,
Наступае сталасць, а пасля старасць.
У прыродзе зіма адыдзе і зноў будзе
вясна.
У чалавека старасць смерцю
кончыцца.

### На могільніку

Стаім над магіламі продкаў.
Запальваем свечкі ды лямпачкі.
Як усё адыходзіць у нябыт!
Яны жылі тут, цярпелі як мы.
Цяпер яны — соль зямлі.
Шануем іх памяць і не забудзем іх:
Жыць будуць вечна ў нашых
успамінах.

**Аўрора**

### Дзяржава і людзі

Дзяржава
Мае ўсе правы!
Правіць народам
Добрым і збродам.
Маем урад
І неабходны лад —
Дысцыпліну і парадак
Трымае нашая ўлада.
Людзьмі добрымі правіць —
Краіну праслявіць,
Будзе дастатак
Любоў і парадак.
Але што са збродам,
Другім народам, —
Ён хоча есці,
У краму чужую ўлезці.
Народ гэты іншы —
Нехта скажа — лішні.
Але і ён патрэбны
Хаця духоўна і бедны.
Можна яго ўзбагаціць,
З Богам, Хрыстом прымірыць —
Каб жыў у пашане
А не ў абмане.
Як гэта зрабіць?
Свяшчэннае слова несці!
Гэта доўг настаяцеляў —
Слуг Божых, прымірыцеляў.
І яны павінны свяціць
Прыкладам. І ісці дзе баліць,
Дзе душа захварэла,
Пахіснулася, прагарэла.
Дзяржава!
Чэсць табе, брава!
Правіш ты мудра,
Адважна, не нудна.
Міністры вядуць сваркі
Мо за долары, маркі?
І за цёплыя столкі,
За бельведэрскія панадворкі.
Валэнса хрысціцца, гаворыць:
Вы ілгуны! І далей уторыць:
Парламент варта разагнаць,
Вас усіх на пенсію пасляць!
Смешна выглядае гэта,
Балаган захапіў паўсвету
А нават і больш.
Ці лепш для нас гэта, ці горш?

**Мікалай Панфілюк**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. падземная частка расліны, 3. косць, 5. травяністая стэпавая расліна, 7. горы ў Паўднёвай Амерыцы, 9. аўтар эпічных твораў, 10. тэрыторыя, дзе для захавання прыроды забаронены некаторыя людскія дзеянні, 11. цячэ праз Франкфурт (Нямеччына), 12. планета, 14. правінцыя на поўначы Іспаніі з цэнтрам у Памплоне, 16. таварыш, 17. горад на Волзе.

**Вертыкальна:** 1. пастка, 2. старагрэчаская багіня перамогі, 3. нямецкі канцлер, 4. член карнай экспедыцыі, 6. выдае друкаваныя творы, 8. праектаванне прамысловых вырабаў, 9. старажытнагрэчаскі філосаф-матэрыяліст, 11. прылада для капання бульбы, 13. сталіца Турцыі, 14. ніжняя канечнасць, 15. ёсць белая, жоўтая і чорная.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 9 н-ра:** паляна, балада, абабак, Чыкага, чайнік, Харбін, аматар, статак, сакрэт, кашмар, імшара, арганы.

Узнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Мне прысніўся такі сон, што і пісаць страшна. Цэлую ноч праследавалі мяне нейкія пачвары. Былі гэта ні то звяры, ні то людзі, я нават не магла зразумець, што гэта, але было гэта нешта такое макабрычнае, што пранізвала мяне да касцей. Я спачатку ўцякала ад гэтых страшылаў, але яны даганялі мяне. Тады я пачала змагацца з імі, біць іх. І ўяві сабе, Астроне, я так іх паспяхова лупцавала, што яны ўсе паразбягаліся, паўцякалі. То я так думаю, што нічога страшнага не павінна здарыцца. А як ты думаеш, Астроне?

**Аліна**

Мне, Астроне, прысніўся непрыемны сон. Быццам пазногці ў мяне на нагах (за якімі я заўсёды вельмі сачу) неяк брыдка, няроўна абрэзаныя. Кожны пазногаць быццам нейкі вышчэрблены — кавалак даўжэйшы, кавалак карацейшы. Я хачу абрэзаць адзін даўжэйшы кавалак пазногця, але гляджу — гэта ж ужо мяса, як кажуць. Кепскі сон, праўда, Астроне?!

**Настасся**

Аліна! Твой сон пра пачвар абазначае, што цябе напаткае нечаканая непрыемнасць. Тое, што ты ўцякала ад іх, абазначае небяспеку, а што лупіла страшыдлаў — нейкую страту, хваробу, смутак. Можа, сапраўды тое, што яны ўсе перапужаліся цябе і паразбягаліся, прадвяшчае табе палёгку.

Настасся! Твой сон дзіўны і нядобры. Калі сняцца пазногці доўгія і чыстыя, можна спадзявацца ўдач і прыбытку, калі яны кароткія і брудныя — так і знай, што будзе сум, беднасць ці іншая маркота. Твае пазногці былі няроўныя, вышчэрбленыя. Мяркую, што нейкая прыкрасць цябе не абміне.

**АСТРОН**

# Гутаркі ў дарозе

## Селяніну ці не найгорш...

— Вось бяда з няўродам у апошнія гады, — наракае пажылы селянін на аўтобусным вакзале.

— Ага, яшчэ якая, — азваўся крыху маладзейшы дзядзька. Збожжа менш чым нармальна павінна быць нават на такіх слабейшых землях, ды і картопля прапала. Каму бульба ўрадзіла ды добра „вылежалася" ў ямах ці склепах, то возьме за яе грошай шмат.

— І то якіх! Вось у мінулы чацвер прывёз на кірмаш у Бельск адзін мужык цэлы воз бульбы. Па дзевяцьсот тысяч „старых" браў за *мэтар*. Гэта не жарты!

— І што, ці не куплялі гарадскія?

— Куплялі па пару кіляў. Хто цэнтнер будзе купляць, калі невядома, ці добрая. Ды і грошай у людзей мала.

— То яшчэ мястэчковым не такая і бяда. Мае пару злотаў і неяк „праклюе", а найгорш вясковым. Думай, што пасадзіш навесну. Во я пасадзіў дзесяць мяшкоў, і столькі ж выкапаў, чуеце? Даў мне сват тры метры восенню. Гляджу, а яны ў склепе загніваць пачалі! Перабраў, засталося паўмет-ра. У свата таксама амаль уся ў склепе бульба сапсавалася. Хто паспеў пакапаць бульбу перад дажджамі, то якасьці яшчэ і перахоўваецца...

— У мінулым годзе не кожная зямля адпавядала бульбе. Во я меў бульбу на двух палетках. На адным — гарошак, не бульба, а на другім — як трэба. Для сябе хопіць.

— А я ўсё думаю, чаму я не купіў больш саджанцаў з Насеннай цэнтралі ў Гайнаўцы. Былі яны па 200 тысяч за *метар*, то я ўсяго пяць купіў. Не чухаў бы цяпер патыліцу, чым садзіць, і „дацягнуў бы" неяк да новай.

— Кожны разумны пасля страты. Каб ведаў, што ўпадзеш, сеў бы загадзя. Будзем карміцца рысам ды кашай, а свінням дамо толькі восыпкі. Як у вас са збожжам?

— Яшчэ ёсць, і на восыпку хопіць, і на продаж. Толькі што, на жаль, ужо патаннела!

— Хто рызыкнуў, яшчэ добра раней прадаў пшаніцу...

— Ат, вось я ўчора вазіў збожжа, то ў Гайнаўцы не было той машыны, на якую яго купляюць. І хто толькі збожжа прывёз, то і павёз усё дахаты. Ездзіш толькі, не наездзішся...

**Запісала Аўрора**




### Калі ў памяшканні цвіль

Цвіль прыносіць людзям шмат непрыемнасцей. З'яўляецца яна на сценах у дамах, на малочных фермах, дзе вільготнасць паветра асабліва вялікая, плямы цвілі пакрываюць не толькі сцены, але і столь. У кватэрах, заражаных цвільлю, яна часта псуе нават прадукты.

Каб папярэдзіць з'яўленне цвілі, неабходна часцей праветрываць памяшканне, на прадпрыемстве сачыць за спраўнасцю вентыляцыі. Але калі ўжо з'явілася, з ёю трэба змагацца. Прэпарат для барацьбы з цвіллю нескладаны, яго можна зрабіць самім. Вазьміце дзве вагавыя часткі меднага купарвасу і адну частку амоніева-каліевых галыноў (іх можна набыць у магазінах хімрэактываў), усё старанна змяшайце. Адну вагавую частку прэпарата растварыце ў дзесяці частках вады (1 кг на 10 літраў), нагрэтай да 40°С. Для гэтага трэба ўзяць драўляны, шкляны або эмаліраваны посуд, ні ў якім разе нельга браць металічных. У раствор дадайце сем вагавых частак гашанай вапны. Атрымаецца падобная да кашы сумесь. Гэтую сумесь трэба роўным слоем нанесці на сцены, столь. Звычайна на квадратны метр паверхнасці ідзе 50-60 г сумесі. Ведаючы гэта, лёгка разлічыць, колькі трэба падрыхтаваць сумесі. Перад тым, як рабіць такую пабелку, з памяшкання трэба вынесці ўсе харчовыя прадукты. Пасля пабелкі закрыйце яго на суткі, каб прасохла, а потым добра праветрыце. Цяпер можна бяліць смела. Пабелку лепш рабіць у сухое надвор'е.

Калі плямы ад вільгаці не пакрыліся цвіллю, каб яны не праступілі пасля пабелкі столі і афарбоўкі сцен, перад рамонтам пакрыйце іх белай нітрагліфталевай фарбай.

## Іконы і водка

Кантрабанду 30 ікон, некалькіх тысяч літраў гарэлкі і больш за тысячу кардонак папяросаў выкрылі нядаўна таможнікі ў Тарэспалі. Іконы знайшлі ў тайніку пад дахам вагона ў саставе цягніка, які ехаў з Масквы ў Варшаву. У другіх схованках таго ж поезда выкрыта 3 339 літраў гарэлкі і 1 280 кардонак папяросаў. Мытнікі знайшлі таксама газавы пісталет і 5 патронаў. Ніхто да кантрабанды не прызнаўся.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Адкуль слова „авечка"?

Нашы вельмі даўнія продкі займаліся жывёлагадоўляй і раслінаводствам — узаемазвязанымі аж да нашага часу сельскагаспадарчымі галінамі.

Назва **авечка** (овца) ва ўсіх індаеўрапейскіх мовах сведчыць аб іх агульным паходжанні: санскрыцкае **авіс** гучыць аднолькава з літоўскім **авіс**, пазней нарадзілася беларускае **авечка**. Тады як рускае **овца** бліжэй да грэчаскага **ойс**, што падобна на стараанглійскае **эова**, ад якога пайшло і сучаснае англійскае **ewe**.

**Ясень**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пароды

*У шклянцы — сонца, як павук.*
*На пляжы, у кіпені гарачай,*
*Не распазнаць ні ног, ні рук...*
*(Ян Чыквін,*
*„У сталіцы парна")*

Прыехаў летам у сталіцу
З правінцыі маёй панурай
Пазабаўляцца, весяліцца,
З высокай збратацца культурай.
Наведаць думаў я музеі,
Бываць у оперным тэатры,
Глядзець мастацтва галерэі,
У рэстаранах есць багатых.
На тратуар удзень я выйшаў,
Гарачыня — жар льецца з неба,
Паветрам гул і дым калышуць —
Рашыў — на пляж падацца трэба.
Там, думаю, спакойна, чыста,
Ні шуму там няма, ні дыму,
У пясочку ці ў вадзе празрыстай
Знайду ад спёкі адпачынак.
Узяў я сумачку з сабою,
Сеў на таксі быццам панішча
І на ваду імчусь стралою —
Паветра ў шыбах толькі свішча.
Іду на пляж, білет купляю,
У вароты шчыльныя праходжу
І месца на пяску шукаю
Гляджу, вачэй не пераводжу.
Цудоўны від перада мною —
Тут люд, як звеpы ў заапарку:
Круціць дзед носам, як слон трубою,
Там баба шыяй, быццам жырафа.
Там джэнтльмен, бы алігатар
З зубамі, як у баране іржавай,
Да дамы лашчыцца шчарбатай
Што ў цянёчку загарае.
Панок у цёмных акулярах
Спяшыць за пульхнаю панюсяй,
Худы, гарбаты і кашчавы
Брыдзе па пляжы быццам бусел.
Вось баба, быццам жаба, крэхча,
Да дзеда з трыбухом як баня,
Там крэмам мажацца старэча
Падобны да гіпапатама.
А каля дамы ў капялюшы
Пляшывы, як гарбуз, прылёг
Нос насарога, асла вушы,
І не адрозніць рук ад ног.
А над вадой нейкі старэча
Абклаўся граззю, як вяпрук,
Жывот у балоце, шыя, плечы,
Не распазнаць ні ног, ні рук.
У старой царэўны залатыя
У роце штыкецiны тырчаць,
Нос, як тамат, вочы малыя,
Ні рук, ні ног не распазнаць.
А смага аж пячэ за грудзі,
За вусны, горла, за язык.
Падумаў — хіба трэба будзе
Сухое цела прамачыць.
Прыстаў на момант, з сумкі выняў
Бутэльку, што прывёз з сабою,
Наліў паўшклянкі і ўмомант выдуў
Пяршак, што сам гнаў пад сасною.
І запякло, што сонца ўбачыў
У шклянцы чыстай, як сляза.
На пляжы ў кіпені гарачай
Умомант разварыўся я.
І быццам штосьці мяне схапіла
І апляло, як муху павук,
Зайшло на вочы павуціннем,
Не бачу ўжо ні ног, ні рук.
Пісаў я гэта ўсё з натугай
І так ад вершыкаў знямог —
Быццам араты пасля плуга —
Не чую ўжо ні рук, ні ног.

**Адам Маньяк**

# СЕНТЭНЦЫІ

Справядлівасць універсальная,
а ў кожнага ўласная мерка.

* * *

Палічылі мы зоркі ў галактыцы,
але не ведаем, колькі
ў малой хмары кропляў дажджу.

* * *

Самаволка — адлучка
з гэтага свету без пісьмовай згоды.

* * *

Крывадушнасць — са слязамі
ў вачах выпісаць ахвяры рахунак
за катаванне яе.

**Барыс Руско**

# НІЎКА



Мал. М. Гіргеля

## Здубавеццэ

*Жыхары горада Ушачы Віцебскай вобласці называюць усё абы-як сабранае, выдуманае і нявыдуманае, нішто і нешта, прастакаватае і хітраватае, вясёлае і сумнаватае, адным словам — здубавеццэ.*

### АДЗІН

На стол гаспадыня паставіла варыва. Сын першы чарэпнуў лыжкай, сербануў і заплакаў.
— Чаго ты, сынок, плачаш? — пытаецца бацька.
— Што я ў цябе адзін.
— Не плач. Адзін, ды ладзін.
Бацька смела чарэпае. Варам абдае ўсё ў роце.
— Адзін ты ў мяне, каб ты быў апошні...

### СВІНЫ БЫК

Жылі суседзямі мужык з яўрэем. Мужыкоў кныр убіўся ў агарод да яўрэя. Той з прэтэнзіяй:
— Іван, га, Іван! Твой свіны бык парыў мая ўся бульба.
— У мяне няма ніякага быка. Ёсць толькі кнур.
— Пад які там шнур! Ён парыў абы-як — і ўздоўж, і ўпоперак.

### МОГУЦЬ НА ХАДУ

Мама казала:
— Што цяперашнія за танцы? Труцца перадамі, як рыба ў нераст. На хаду могуць дзіця зрабіць.

*(Вожык)*

# Смех у санаторыі

У перапоўненым трамваі Маліноўскі расказвае Кавальскаму анекдот:
— Ці ведаеш, якая розніца паміж урадам і туалетнай паперай?
— Не ведаю.
— Няма розніцы: адно і другое г... варты.
На гэтыя словы мужчына, які стаяў побач, паказвае значок агента сакрэтнай службы і пытае Маліноўскага:
— Любіце анекдоты? Скажыце тады, калі ласка, якая розніца паміж вамі і гэтым трамваем!
— ???
— Трамвай паедзе, а вы пойдзеце са мною.
— Дык я ж гаварыў не аб нашым урадзе, але аб нямецкім...
— Добра, добра! Я ляпей ведаю, які ўрад г... варты.

* * *

На партыйным сходзе сакратар пытае таварышаў:
— Хто гэта такі Адэнаўэр?
— Паняцця не маю, — адказвае Яблоньскі.
— Вось бачыце, калі б вы хадзілі на ўсе партыйныя сходы і курсы, дык ведалі б, што гэта былы канцлер ФРГ.
— А ці ведаеце, хто гэта такі Вішнеўскі? — пытае Яблоньскі ў сваю чаргу сакратара.
— ???
– Калі б вы не хадзілі на партыйныя сходы і курсы, дык ведалі б, што гэта каханак вашай жонкі.

* * *

У краме Коля хоча купіць чай.
— Які хочаце, кітайскі ці рускі? — ветліва пытае прадаўшчыца.
— Калі так маю выбіраць, дык можа хай будзе кава.

* * *

У мясной краме:
— Свініна ёсць?
— Няма.
— А ялавічына?
— Няма.
— А можа каніна?
— Няма.
— А ці ў гэтай краме хаця нейкае мяса ёсць?
— Ёсць; сабачына.
— Дайце два кілаграмы.
— Папярэджваю, што гэта мяса другога гатунку.
— Гэта значыць якое?
— Рубанае разам з будкай.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Чаму свет такі несправядлівы? Чаму за ўсё нясе адказнасць жанчына? Каб у хаце ўсё блішчэла, каб былі дагледжаныя і выхаваныя дзеці, а да таго — каб на ўсё хапіла. Не ведаю, мо я гляджу на свет толькі і выключна праз сваю прызму, але ці ж у маёй сітуацыі я магла б на яго глядзець інакш...

Пакуль я не выйшла замуж, можна сказаць, толькі птушынага малака мне не хапала. Адзіная дачушка ў бацькоў, якія на мяне і хукалі, і дзьмухалі, я не ўяўляла сабе, што яны маглі б мне ў нечым адмовіць. І не адмаўлялі. Апраналі, вучылі, падвозілі мне яду аж у Варшаву, дзе я заканчвала вышэйшую школу. Пра ўсё клапаціліся самі, нават хлопца мне падабралі адпаведнага. Праўда, не меў ён вышэйшай адукацыі, але быў настолькі спрытны, што меў уласны бізнес. Я выйшла за яго зумуж, бо і мне ён спадабаўся.

Калі я хадзіла цяжарная, ён мяне даслоўна насіў на руках. Не паспела я пра нешта з яды падумаць, як ужо яно было на стале. Не дазваляў мне нічога рабіць. Узяў на сябе ўсе абавязкі па хаце. Ніхто не спадзяваўся трагедыі. Але ж няшчасці ходзяць па людзях. Дзіця нарадзілася вельмі хворае, хаця доследы нованароджанага паказвалі вельмі высокую ступень інтэлігентнасці.

Мы не разумелі, што здарылася. Не сядзела, не хадзіла наша дачушка, а горш за ўсё — што нічога не разумела, не рэагавала на нашы словы. Была як бы непрысутная.

Ці ведаеш, як магла сябе адчуваць маці, якую дзіця зусім не прызнае за маці?!. Не адказвае на ласку, не хоча прытуліцца, ляжыць халоднае, як лёд...

Як толькі я зацяжарыла ізноў, я вырашыла, што нарэшце адчую, што я — маці, а мой муж — бацька. Нарадзіўся хлопчык. Дачушцы было ўжо тры гадкі, але не хадзіла яшчэ, не гаварыла, як і раней. Хлопец быў здаровы.

Падхаваўшы яго крыху, я пайшла на працу. Да дзяцей мы ўзялі маладую жанчыну, якая пільнавала іх, пакуль мы працавалі. Калі вярталіся з працы — усё было на нашай галаве.

Мае бацькі, відаць, не вытрымаўшы такой страшэннай псіхічнай нагрузкі, хутка пасля нараджэння маёй хворай дачушкі паміралі. А абяцалі дапамогу да канца жыцця. Што ж, калі іх жыццё аказалася такое кароткае!

Муж не знаходзіў сабе месца ў гэтым нашым катле. Найлепш адчуваў сябе, калі выходзіў з дому. Тады мо хоць на той час стараўся выкінуць з галавы ўсю нашу трагедыю. З часам пачаў усё менш цікавіцца домам, прыходзіў дахаты позна, не пытаўся, як адчуваю сябе я, ці хапае мне грошай. А бывалі ў нас і „сур'ёзныя" размовы.

Урэшце мой муж паведаміў мне, што выязджае заграніцу „на кантракт". У мяне ўсярэдзіне ўсё пахаладзела. Я ведала, што ён не вытрымаў цяжару жыцця і проста ўцякае ад горкай рэчаіснасці, пакінуўшы на маёй галаве двое малых, з якіх адно — моцна хворае. Але што было рабіць, калі я ўжо перастала быць аўтарытэтам для майго мужа.

Я яшчэ спадзявалася, што муж праз тры гады вернецца. О не! Відаць, не на тое выязджаў, каб вярнуцца. Заграніцай звязаўся з іншай жанчынай і там застаўся. Нават перастаў прысылаць грошы на дзяцей. Не іду судзіцца. Б'юся, як рыба аб лёд, каб выхаваць дзетак. Адкрыла свой бізнес.

Ужо хлопчыку сем гадоў. Вельмі непакоіць мяне, што яму пачала балець галоўка. Вельмі часта гэта здараецца. Я вадзіла тры мільёны на доследы, а лекары і так не могуць нічога канкрэтнага сказаць. Што рабіць? Бадай, паеду з ім у Варшаву. Трэба несці свой крыж. Але скажы, чаму мужчыны такія несправядлівыя?..

**Тацяна**

Тацяна! Відаць, з мацярынскімі пачуццямі ніхто зраўняцца не можа. Зычу табе шчаслівых дзён у цэлым моры твайго няшчасця!

**СЭРЦАЙКА**